БЕЛАРУСКАЯ ЗЕМЛЯРОБСКАЯ БІБЛІЯТЭКА

№ 4



# САДОЎНІЦКАЯ ЧЫТАНКА

Зборнік артыкулаў аб гадаваньні садовых дрэваў, аб дaглядзе іх і абароне ад усялякіх шкоднікаў




ВІЛЬНЯ — 1938 ГОД

БЕЛАРУСКАЯ ЗЕМЛЯРОБСКАЯ БІБЛІЯТЭКА

№ 4

# САДОЎНІЦКАЯ ЧЫТАНКА

Зборнік артыкулаў аб гадаваньні садовых дрэваў, аб даглядзе іх і абароне ад усялякіх шкоднікаў



Выданьне „САМАПОМАЧЫ“

ВІЛЬНЯ — — — — — — — — 1938 ГОД

## ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ.

Здаўна адчуваўся ў нас недастатак сваей беларускай фаховай літаратуры аб садоўніцтве і агародніцтве. Недастатак гэты сягоньня, калі з прычыны нячуванага дагэтуль раздрабленьня сельскіх гаспадарак зацікаўленьне садам і агародам узрасло яшчэ больш, стаўся асабліва вострым.

Аб справах садоўніцтва шмат пісалі беларускія садаводы ў розных гаспадарскіх беларускіх часапісах, апошнім часам асабліва ў „Самапомачы." Нікому з гэтых людзей аднак дагэтуль не пазволілі штодзенныя іхнія абавязкі сабраць усё напісанае ў адно цэлае дзеля карыстаньня ў практыцы. Вот-жа, каб хоць у малой частцы здаволіць гэтыя з кожным днём нарастаючыя патрэбы, „Самапомач" і пастанавіла сабраць гэтыя артыкулы ў адну кніжку. Будзе гэты зборнік тымчасам дарадчыкам для садаводаў пачынаючых, а практычных садаводаў можа узахвоціць да напісаньня аб садаводзтве падручніка сыстэматычнага.

Гэтым кіруемся выпускаючы ў сьвет гэты наш зборнік самастойных артыкулаў аб садоўніцтве.

У добры час!

Выдавецтва „САМАПОМАЧЫ"

# Зьбірайце зярняты дзічак!

Бязлікае мноства ўсякага дабра вымыкаецца з рук нашага чалавека дзеля таго толькі, што ён нясьведамы вартасьці і способу застасаваньня тых шматлікіх, на пагляд дробных і непаказных магчымасьцяў, якіх поўна ў штодзенным ягоным жыцьці. Выкарыстаць гэтыя магчымасьці значыць знайсьці ключ да свайго дабрабыту. Вось-жа аднэй з такіх нязнаных для агулу „магчымасьцяў“ зьяўляюцца зярняты з пладоў такіх дзічак, як яблыні: лясная — *malus silvestris*, кітайская сьліваліістая — *malus prunifolia*; сьлівы — каўказкая; вішні — Антыпкі *(prunus Mahaleb)*.

З гэтых якраз зярнят здольны вырасьці найлепшыя, найсільнейшыя падкладкі пад будучыя ўшчэпы і самыя пладовыя дрэвы.

**Як дастаць зерне**

Перад усім ядучы такія дзічкі, калі толькі яны сьпелыя, ня трэба іхных зярнят марнаваць, але старанна, зярнё да зярняці, зьбіраць. А нават калі-б так сталася, што дзічкі загніюцца, дык зярнё ўсё роўна можа і сапраўды бывае добрым. Больш таго: калі-б можна было нейдзе дастаць плады — дзічкі сумысьля на развод, дык дастаць з іх зярняты найлягчэй так, што самыя плады (йгрушкі, яблыкі) накладаюць у кучкі, каб яны загніліся. Тады іх расьціскаюць, а самыя зярняты выпаласківаюць вадой.

Або можна йшчэ паступаць гэтак: закапаць у хляве (дзеля цяпла) меншую ці большую бочку і кожны пласт дзічак у ёй перасыпаць пластам зямлі. Калі яны добра перагніюць, выбіраем іх на рэшата і пераціраем рукамі, паліваючы вадой. На рэшаце астануцца чыстыя зярняты. Перасушываем іх на сітах ці рэшатах (тольકі ня ў печы) і трымаем да часу прадажы ў сухім месцы. — Але падапрэўшыя зярняты кепска ўсходзяць.

Так ці гэтак атрыманыя зярняты трэба злёгка прасушыць, разлажыўшы іх у правеўным месцы (але не на сонцы!) на стале на дні тры часу. Пасьля гэтага зерне бывае ўжо гатовым да засеву; звычайна аднак ня сеецца, а пакідаецца да вясны, бо ўвосені засеенае зерне падлягае шмат якім небясьпекам. Між іншым на такое зерне вельмі ласы мышы; а ў нас да таго небясьпечны і маразы. Дзеля таго звычайна сяўбу адкладаюць да вясны, а самае зерне адпаведна перахоўуюць. Калі-ж бы нехта хацеў абавязкава сеяць дзічкі ўвосені, дык мусіў-бы самае семя дзічкі прад сяўбой ад мышэй добра абсыпаць аптэчным парашком мінія (на кілё зярнят 20 грам мінія).

**Перахоўваньне зярнят**

Перахоўваньне зярнят праз зіму да вясны выглядае гэтак: у скрынку ці якую йнакшую судзіну з прадзюраўленым дном сыплецца пласт тоўчанага драўлянага вугля, ці пяску да грубіні двух пальцаў; на гэта сыплецца пласт зярнят дзічак да грубіні аднаго пальца, тады вогкі пясок на грубіню двух пальцаў, узноў зярняты— на адзін палец і г. д., аж покуль усё з верху ня прысыплецца пластом вогкага пяску, а на яго йшчэ — ялаўцовымі калючкамі (ад мышэй). Покуль няма маразоў, гэткую скрынку трымаюць у халаднавым, цёмным месцы, бясьпечным ад мышэй. Час ад часу трэба пры гэтым паглядзець, ці ня высах зусім пясок і калі так, дык трэба яго зараз-жа паліць вадой. — Цесна перад маразамі ўстаўляецца скрынка з зернем у загадзя прыгатаваную яму на такую глыбку, гдзе-б не дасягаў ма-

роз (1 м.), абстаўпяецца ялаўцовымі і яловымі лапкамі (не саломай!) і закопываецца.

**Засейваньне і пікаваньне.** Засяваюцца дзічкі вясной як найраней, на глебе вычышчанай з пырніку, лебяды яшчэ з восені побра выгнаенай. Успульхненую ральлю раўнуюць, праводзяць роўныя нягдыбокія, бо толькі 4 см. раўкі, і ў іх густа засяваюць дзічкі. Раўкі разьмяшчаюцца на адлегласьць больш-менш 15 см., засееныя зярняты прыкрываюцца загадзя прыгатаваным чорназёмам, каторы пасьля дошчачкай лёгка йшчэ прыбіваецца; па дажджы — успульхняецца граблямі.

Гэтак засееныя дзічкі хутка пачынаюць усходзіць і тады прыходзіць час першага перасаджваньня, або школкаваньня. Робіцца яно па тое, каб змусіць маладую ўжо дзічку пускаць больш каранёў ушырку, замест дагэтуляшняга аднаго толькі караня ўглыбку. Работа выглядае гэтак. Загадзя трэба прыгатаваць градку добрай, чыстай зямлі, на 50 см. (дзьве лапаты) добра ўзрыхліць і пакінуць яе, каб зляглася. Выраўнаваўшы верх гэткай градкі, трэба на ёй шнуром зрабіць лініі на якіх 12—15 см., на каторыя ў радок і садзяцца асобныя калівы дзічак у ямкі, зробленыя калочкам, адно ад другога на якіх таксама 15—17 см.; чым лепшая зямля, тым гусьцей і наадварот. — Калі дзічкі — высеўкі ўжо ўзойдуць і пакажуць першыя два лісткі, тады нечакаючы трэба іх перасаджываць. Малой лапаткай падважываецца часьць засеенага радка, скора — каб не павялі — але асьцярожна выбіраюцца па аднаму каліву дзічкі, пазногцем ці нажом абрываецца на адну траціну галоўны корань і зараз-жа садзіцца ў ямку ды добра абціскаецца зямлёй. Як глыбака садзіць, гэта залежыць ад таго, ці ўскапаная зямля ўжо мела час асесьці, ці йшчэ не: там, дзе зямля ўжо асела, ня трэба садзіць высеўку глыбей, як яна сядзела на першай градцы, прад перасаджваньнем. Калі-ж зямля йшчэ не асела, дык трэба садзіць глыбей (як капусту), каб пасьля саджаная дзічка не „павыла-

зіла." Само перасаджваньне найлепш рабіць у пахмурны дзень. Калі-ж пагода стаіць добрая, а перасаджваць ужо пара, бо йнакш каліўцы дзічак здзеравянеюць, дык тады такую работу трэба рабіць прынамся пад вечар, а самую градку з перасаджанымі дзічкамі— пазакрываць галузкамі ялінкі ці ялаўцу, каб не прыпякло сонца.

<u>Дагляд.</u> Гэтак перасаджаную дзічку ня можна пакідаць без дагляду: трэба палоць градку ад усякага пустазельля, па кожным дождджу матыкаваць зямную скарынку між радкоў, а прыкрыцьцё ад сонца можна зьняць тады толькі, як перасаджаныя каліўцы пусьцяць ужо новыя лісткі (праз 3—4 тыдні). Каб рост прысьпяшыць, да вады да паліваньня двойчы ў тыдзень дадаецца адна трэцяя часьць мачавой жыжкі, або разведзенага каравячага гною. Мясцамі практыкуецца замест паліваньня, перакладаньне радкоў дзічак звычайным гноем па версе: мае гэта аўтаматычна бараніць самыя дзічкі ад лішняй сьпякоты ў пагодныя дні і карміць іх выпаласківаным гноем падчас дажджоў. — Найлепш аднак замест паліваньня стасаваць ускопку градак матыкамі.

Гэтак дагляданыя дзічкі праз лета звычайна дасягаюць ужо грубіні алаўка, а нават пальца, асабліва яблыні і чарэшні; сьлівы і йгрушы растуць значна вальней. Добра разьвітыя дзічкі выкопываюцца ўзноў, зразу абрываюцца з лістоў, сартуюцца, вяжуцца ў пучкі па 100 штук і прысыпаюцца зямлёй да часу паўторнага, другога перасаджваньня (школкаваньня). Слабейшыя дзічкі можна пакідаць на градцы, або і перасаджываць, але на такой самай адлегласьці ад сябе, як і ў годзе папярэднім. Толькі двойчы перасаджваныя дзічкі бываюць здольнымі ўжо да прышчэпліваньня, якое найлепш праводзіць вясной (м-ц красавік).

В. Р.

---

# Правільнае гадаваньне дзічкоў.

Кожны з нас, закладаючы сад, хоча, каб ён быў як найлепшым, гэта значыць, каб пасаджаныя дрэвы добра расьлі, ня гінулі ад марозу, радзілі што год многа прыгожых і смачных пладоў. Гэтыя нашыя пажаданьні збудуцца толькі тады, калі мы пасадзім дрэўцы, зашчэпленыя на падвоях (дзічках), адпаведніх для нашага клімату і варункаў зямельных, калі зашчэпленыя сарты пладовых дрэў таксама будуць дабраны да тых-жа варункаў кліматычных і зямельных, калі будзем свой сад добра даглядаць і бараніць яго ад розных шкоднікаў.

### *Разгледзім справу падвоеў.*

Падвоі (дзічкі) для пладовых дрэў, як кожнаму з нас ведама, гадуем з насеньня і ад якасьці пасеенага насеньня будзе ўсецэла залежаць і якасьць самых падвоеў, а ад якасьці падвоеў будзе залежаць у надта вялікай ступені адпорнасьць і якасьць нашых садоў. Падвоі ў садоўніцтве маюць надта вялікае значэньне: ад іх залежа адпорнасьць на маразы й іншыя няўзгоды, а так-жа ўраджайнасьць.

Ня з кожнага дрэва можна браць насеньне. З выбарам насеньня трэба быць вельмі і вельмі асьцярожным. Пачнём ад яблыні. Найлепшымі насеньнікамі для нашых яблынных садоў будзе наша мясцовая лясная яблыня *malus silvestris* і кітайская сьліvалістая яблыня *malus prunifolia*.

Наша мясцовая лясная яблыня адпорная на вялікія нашыя маразы, не пераборлівая на зямлю, добра

зрастаецца пры шчапленьні з усімі сартамі садовых сартоў яблыні. Прышчэпы на лясной яблыні дасягаюць магутнага ўзросту, бываюць даўгавечныя і ўраджайныя. Плады на насеньне лясной яблыні мы ня можам браць з усякай спатканай лясной яблыні, трэба выбіраць. Ніколі ня можам браць на насеньне пладоў з тых лясных яблынь, якія растуць у самым садку паміж шчэпленых яблынь, ці зусім блізка ад саду, гдзе часам бываюць далікатныя сарты яблыні; дзічкі пры ўзаемным апыленьню з такімі садовымі яблынямі выдаюць насеньне не пажаданае ў садоўніцтве, бо з гэтага насеньня могуць вырасьці мешанцы, зусім не адпорныя на мароз і хваробы.

На насеньне трэба зьбіраць плады толькі з тых лясных яблынь, якія растуць далёка на полі, ці ў лесе і толькі з тых дрэў, якія адзначаюцца вялікім ростам, маюць здаровыя гладкія пні, а лісьцё маюць вялікае, пушыстае, родзяць часта і многа крупных, чыстых ад плям і рана пасьпяваючых пладоў.— Ні ў якім выпадку ня можна зьбіраць насеньне з лясной яблыні, якая мае лісьцё дробнае, бліскучае, плады родзіць дробныя, паплямленыя, патрэсканыя. Калі мы зашчэпім яблыні на дзічках з такога насеньня, дык дрэўцы нашы будуць дрэнна расьці, а йшчэ горш пладаносіць (радзіць).

Але і насеньне лясных яблынь ці йгруш трэба браць толькі з свайго раёну; з цяплейшых аколіц ніколі ня можна браць, але з зімнейшых —так!

Калі лясная яблыня без дагляду пражыла многа год, стала вялікім, здаровым, магутным дрэвам, ня зьмерзла, дык тым больш і патомства ад яе пры добрым даглядзе будзе йшчэ здаравейшым і адпорнейшым.

*Malus prunifolia* ёсьць падвоем (дзічкай) вельмі добрым, адпорным на мароз, непераборлівым на зямлю, ня надта баіцца сырых мясцоў, але бяда ў тым, што спаткаць яго ў нас можна надта рэдка і апроч таго, паміж malus prunifolii пападаюцца такія пад - адмены (мешанцы), на якіх ня ўсе сарты яблынь шчапленьнем вочкамі ці сучком добра прыймаюцца, а калі і прый-

муцца, дык слаба зрастаюцца і пасьля лёгка абламываюцца на месцы шчапленьня. Перад размнажэньнем *malus prunifolii* трэба праверыць, якая ёсьць яна на шчапленьне. Калі ня прыймаецца на ей добра шчапленьне, дык ніколі ня трэба сеяць яе на дзічкі.

На дзічкі для гадоўлі йгруш найлепш браць насеньне з нашай палявой лясной ігрушы *malus communis*, ад дрэў, якія маюць крупнае, чыстае лісьцё, часта і добра родзяць крупныя, добрага колеру, чыстыя ад плям, непатрэсканыя плады. Плады на насеньне трэба зьбіраць толькі зусім сьпелыя. З зялёных пладоў насеньне бывае няўсходнае. Калі маем намер мала гадаваць дзічак і насеньня нам трэба ня шмат, дык найлепш выбраць яго, разрэзываючы плады. Калі-ж насеньня нам трэба шмат, або захочам мець яго на продаж, дык найлепш часьць пладоў трохі зьбіць і зложыць іх разам са здаровымі ў доўгія, ня тоўстыя кучы, каб плады пачалі гніць, чарнець, але ні ў якім выпадку ня даць ім сагрэцца, бо насеньне тады сапрэе і будзе няўсходнае.

Як толькі плады падгніюць, тады таўчом іх у якой-небудзь скрынцы. Стоўчаныя плады перамываем у пасудзіне вадой. Мязга ўсплывае на верх, а насеньне йдзе на дно. Вымытае насеньне тонкім слоем раскладаем на паперы ці пасьцілках дзеля прасушкі. Каб скарэй яно прасохла, час ад часу перамешываем яго рукамі. Высушанае насеньне ссыпаем у палатняныя мяшэчкі і трымаем у правеўным, але і пэўным месцы, бо ў няпэўным усё насеньне часам зьядаюць мышы.

Дзічкі для шчапленьня сьліў найлепш гадаваць з насеньня Алычы ці так званай каўказскай сьлівы.

Для вішні нашага району гадуем дзічкі ці з насён мясцовай вішні ці з насён Антыпкі (prunus Mahaleb). Усё костачкавае насеньне трэба сеяць не пазьней як праз дванаццаць (12) дзён пасьля сарваньня з дрэва пладоў, бо ў пазьнейшым севе яны ўзыйдуць толькі на другую вясну, значыцца праз паўтара года. Стратыфікованае

(перахоўванае ў пяску) костачкавае насеньне ўсходзіць на другую, а часам і трэцюю вясну і далёка ня ўсё.

У палове кастрычніка сеем насеньне. Пад пасеў іх выбіраем месца роўнае, з малым склонам, гдзе не застайваецца вада... Мясцоў з вялікім склонам ня можна браць, бо падчас вялікіх дажджоў і пры веснавым растопе сьнегу, вада размывае загонікі і змывае насеньне.

Зямля пад пасеў павінна быць пухкая, ня глiністая, а найлепш супясчаная, Цяжкая глiністая зямля скора й моцна зьліпаецца, на версе робіцца цьвёрдая кара і вясной расткі з насеньня ня могуць прабіцца на верх. Перад пасевам зямлю трэба добра ачысьціць ад пустазельля. Для пасеву робім нявысокія, ад васьмі да дзесяці (8—10) сантымэтраў загонікі, шырынёй кожды ў сто дваццаць (120) сантымэтраў; праходы паміж кожнага загоніка павінны быць трыццаць— сорак (30—40) сантымэтраў шырынёй. Высокіх і вузкіх загонаў пад пасеў яблынь ніхто ня робіць дзеля таго, што такія грады вясьняны вецер скора высушывае і зярняты дрэнна ўсходзяць. Усе загоны робім пад шнур, каб ўсё мела форму правідловую. Уздоўж загонаў вострым кіем робім раўкі, адзін ад другога па дваццаць (20) сантымэтраў, глыбінёй да пяці (5) сантымэтраў, на цяжкой зямлі да чатырох (4) сантымэтраў. У раўкі густа адно каля другога сеем насеньне і прыкрываем зямлёй, якую згортываем у раўкі маленькай дошчачкай, але не канцом яе, а бокам. Калі насеньне сеем на зямлі цяжкай, зьліўнай, лык там гэтай зямлёй ня можна прыкрываць насеньня, а трэба засыпаць пяском, бо йнакш вясной расткі ня выб'юцца із-пад зямлі. Бываюць такія зімы, што зямля не прамерзьне, адразу выпадае сьнег. У такія зімы мышы часта выберуць чуць ня ўсе зярняты з зямлі. Каб пасеенага насеньня ня зьелі мышы, перад пасевам трэба добра перамешываць насеньне з парашком мініі, які бярэцца з такім рашчотам, каб мініі выпадала ня менш дваццаці (20) грамаў на адзін (1) кілёграм насеньня. Мінію можна купіць у аптэцы ці ў аптэчным складзе.

## *Стратыфікаваньне.*

Калі-ж не пасьпеем пасеяць насеньня ўвосень з якой-небудзь прычыны (дзеля познага выбраньня насеньня з пладоў, або непрыгатаваньня месца для пасеву), дык насеньне стратыфікуем, гэта значыць перамешваем яго з пяском. Стратыфікаваньне робіцца так. Бяром драўляную скрынку, з ня зусім шчыльным у ёй дном, каб вада не задзержывалася, і сыплем на дно чыстага рэчнага пяску сантымэтраў на чатыры-пяць (4—5) таўшчынёй. Пасьля бяром насеньне і разоў пяць-шэсьць на меру больш пяску, чым насеньня, ссыпаем усё разам, пясок і насеньне, у якую пасудзіну і добра перамешваем якой палачкай. Па дакладнай перамешцы насеньне з пяском высыпаем у вышэйсказаную скрынку, добра паліваем вадой, каб пясок наскрозь прамок, зраўноўвуем гладка выбоіны, зробленыя вадой і насыпаем на верх на пару сантымэтраў чыстага пяску, а на пясок накладаем густа дробных яловых ці ялаўцовых лапак, зьверху скрынку забіваем ня зусім шчыльна дошкай. Кажу — ня зусім шчыльна дзеля таго, што калі шчыльна заб'ём, дык паветра ня будзе даходзіць да застратыфікаванага насеньня, а гэта дрэнна адаб'ецца на ўсходнасьці насеньня. Пасьля скрынку ўстаўляем на дворы, не на нізкім месцы, у яму, так, каб верх скрынкі ад верху зямлі быў ня глыбей як сантымэтраў на трыццаць (30), абкладаем увакруг скрынку зьнізу, зьверху і з бакоў яловымі лапкамі і закапваем так, каб зьверху быў копчык; па бакох трэба зрабіць равок, каб вада не дасталася ў ямку. Лапкі кладзём ад мышэй.

Бываюць выпадкі, што насеньне мы здабудзем з вялікім апазьненьнем, зімой, напрыклад у палавіне месяца студня. Тады перад стратыфікаваньнем яблыні насеньне яблыні ці йгрушы замачываем у летняй вадзе на сорак восем (48) гадзін. Пасудзіну з замочаным насеньнем стаўляем у хаце, каля сьцяны, але ні ў якім выпадку каля цёплай печы, гдзе насеньне за сорак во-

сем гадзін магло-б сапрэць. Па вымачэньню насеньне адразу стратыфікуем так, як сказана выжэй. Застратыфікаванае насеньне ставім у паўзімнае памяшчэньне на дзён дзесяць(10), потым выстаўляем скрынку на дзён шэсьць — восем (6—8) на мароз, каб пясок у скрынцы прамерз наскрозь. Калі мароз большы як дзесяць-пятнаццаць (10—15) градусаў, дык скрынку трэба замарожываць у ганку ці закапаўшы глыбака у пухкі (рыхлы) сьнег. Потым скрынка ўносіцца ў паўцёплае памяшчэньне, каб пясок размерзся і пасьля ставіцца ў такім паўзімным памяшчэньні, гдзе-б нанова пясок не замерз. Праз дзён якіх дваццаць (20) пясок трэба йшчэ прамарозіць такім-жа спосабам, як і першы раз і пасьля йзноў унясьці ў тое-ж самае памяшчэньне. Прамарожваньне робіцца да трох разоў. Прамарожанае насеньне дружна і да аднаго ўсходзіць.

Вясной, як толькі стане цёпла, а зямля ў агародзе йшчэ не адтаяла, сеяць яшчэ ня можна, дык каб без пары насеньне ў скрынцы не паўсходзіла, трэба зьверху лажыць лёд ці сьнег, які часам доўга ляжыць у цяністых мясцох.

Зімой, калі пясок бывае у скрынцы высахне, яго трэба паліць вадой.

Як толькі зямля адтае і прасохне, так што можна ўжо на ей працаваць, калі ня ліпне ўжо да ног і лапат з граблямі, дык адразу прыступаем да пасеву застратыфікаванага насеньня такім-жа парадкам, як увосені. Перамешанае з пяском насеньне перад пасевам трэба перамыць у вадзе праз рэшата.

### *Пікаваньне.*

Як толькі яблыні ці йгрушы узыйдуць, трэба глядзець, каб не прапусьціць час пікаваньня (перасадкі севак). Без пікаваньня наша лясная яблыня і асабліва йгруша дадуць дзічок з адным доўгім углыб зямлі, як бурак, каранём, што ня ёсьць пажаданым для пладовых дрэўцаў: карэнь мусіць добра разгалузіцца ва ўсе бакі ды мець шмат дробных валасковых карэньчыкаў.

Пад пікаваньне выбіраем зямлю самую найлепшую, бо на дрэннай зямлі ніколі ня вырастуць дзічкі добрыя. Зямля мусіць быць з восені ачышчана ад сорных траваў.

Час пікаваньня самы найлепшы тады, калі сеўка толькі пачне выпускаць трэці лісток. Першых двух лісткоў ад зямлі (семядолі) ня трэба лічыць.

Да часу пікаваньня робяцца на ураджайнейшай зямлі такія-ж як і для пасеву градкі, вызначаюцца роўныя радкі (не раўкі) на дваццаць (20) сантымэтраў адзін ад другога ўпоперак градкі і садзяцца сеўкі пад мерку, сеўка ад сеўкі ў радку на дванаццаць да семнаццацёх (12—17) сантымэтраў, залежна ад зямлі. Калі зямля добрая—садзім гусьцей, а калі дрэнная — садзім радзей.

Само пікаваньне робіцца гэтак: бярэцца якая-небудзь пасудзіна: міса, скрыначка лёгкая ці кошык. На дно і па бакох пасудзіны кладзём сьвежы мокры мох і йдзём капаць сеўкі, якія адразу кладзём у пасудзіну з мохам. Капаем за раз штук 200 –300. Зверху сеўкі прыкрываюцца сырым мохам—бо йнакш іх высушыць сонца і вецер, і йдзём садзіць. Бяром у рукі маленькую, з цьвёрдага дрэва (дубу, клёну ці ясеню), лапатачку, 25 сантымэтраў даўжыні і 2 з палавінай сантымэтры шырыні і на патрэбнай адлеглась ці ўтыкаем, як долато, проста ў зямлю, на глыбіню 8—10 сантымэтраў, паварачываем у адзін і другі бок ўздоў-ж радка і выцягваем вон. Тады бяром адну з ужо выкапаных севак, абрываем (лепш адрэзваем) адну трэцюю часьць ейнага караня і, не загібаючы рэшты караня, ўстаўляем у зробленую лапаткай ямачку на такую глыбіню, як дагэтуль сеўка расла у зямлі. Лапатку бяром ізноў у рукі, устаўляем побач у зямлю, прыціскаючы яе (зямлю) да расьлінкі з аднаго і другога боку ў тым-жа кірунку, у якім прад гэтым расхілялася. Увакруг сеўкі робіцца маленькая, як місачка, ямачка і адразу паліваецца вадой.

Абрыўка (укарачваньне) на адну трэцюю часьць

караня робіцца дзеля таго, каб у вырасшага з гэтай сеўкі дрэўца было больш бакавога карэньня. Пікаваньне трэба выконываць надта ўважна. Трэба глядзець, каб устаўляючы карэньчык сеўкі ў зямлю не загнуць яго, бо дрэўцы з такіх севак вырастуць з крывымі карэньнямі і пойдуць у брак.

Па распікаваньні, праз усё лета, пасьля кожнага большага дажджу, трэба старацца ўзрыхляць зямлю і не дапускаць да зарастаньня травой. Калі здарыцца вялікі дождж і моцна залепіць ад нізу аж да верху маладыя сеўкі, дык адразу, як толькі сеўка крыху абсохне, трэба зямлю асьцярожна пальцамі пастрасаць.

Калі хто хоча, каб сеўкі за адно лета дарасьлі да мэтра ў вышыню, дык мусіць не ляніцца як найчасьцей узрыхляць зямлю і нішчыць увакруг траву. Працуючы як кіраўнік гандлёвага пітомніку (школкі), і ў сябе дома, я ніколі больш аднаго разу пры пасадцы не палівай і не паліваю, якое-б лета ні было сухое, а толькі што тыдзень успульхняю зямлю, і дзічкі восеньню маю заўсёды вельмі добрыя. Частае ўспульхняньне зямлі лічу лепшым ад паліваньня.

Гаворачы аб севе і пікаваньню яблыні мушу зазначыць, што дзічкі з насеньня malus prunifolia пікаваць ня трэба: яны і без пікаваньня маюць надта добрую сыстэму карнёвую. Таксама ня трэба пікаваць вішняў і сьліваў.

На маладыя сеўкі ці старэйшыя дрэўцы летам заўсяды нападае травяністая тля (папольску — mszyca zielona), ад чаго лісьцё пачынае скручывацца, дрэўца крывее і перастае расьці. Каб ня даць размножыцца гэтаму шкодніку і ня мець пакалечаных і малых у росьце дзічкоў, трэба часта пераглядаць дрэўцы. Як толькі заўважым травяністую тлю, трэба зрабіць раствор з трыста (300) грамаў сьпірту-дэнатурату і дзевяцёх з палавінай ($9^1/_2$) літраў летняй вады, дадаць семдзесят пяць (75) грамаў зялёнага (шэрага) мыла, усё дакладна перамяшаць, пакуль мыла не распусьціцца, наліць раствору ў няглыбокую міску ці талерку, падхадзіць

да дрэўцаў, на якіх ёсьць тля, нагібаць іх у пасудзіну і паласкаць у растворы. Калі скора пасьля паласканьня здарыцца дождж, дык паласканьне трэба паўтарыць. Гэты спосаб проціў тлі рахую самым найлепшым. Прыгатаўляць раствору можам менш ці больш, глядзячы, колькі трэба. Сьпірт-дэнатурат і зялёнае (шэрае) мыла трэба загадзя прызапасіць, а не тады старацца, як на дрэўцах будзе поўна тлі.

Паліўку дзічак навознай жыжкай ці іншы спосаб угнаеньня іх праз лета рахую шкодным: дзічкі пры гэтым, праўда, вырастуць большыя, але ўражлівыя на мароз.

**Іван Сікора.**

Сакавік 1938 году,
Алашкі-Малыя,
пош. і чыг. ст. Полава (Połowo),
Пастаўскага пав., Віленскага ваев.

---

# Прыкопка дзічкоў на зіму і пасадка іх вясной у пітомніку

У першай палове кастрычніка трэба на ўсіх дзічках абарваць лісьцё, бо само яно на здаровых дзічках, ды калі дзічкі растуць на добрай зямлі, да зімы не абсыпецца. Лісьцё абрываецца гэтак: аднэй рукой бярэцца дзічок за самы вяршок, а другой сасмаргаваецца лісьцё зьверху ўніз. Сасмаргаваць лісьцё трэба асьцярожна, каб разам з лісьцём не пазьдзіраць і не пазадзіраць пупышак.

Абарваўшы лісьцё, адразу прыступаем да капаньня дзічак і сартаваньня іх. Капаць трэба ўважна, каб не папсаваць карэньне. Найлепей гэта рабіць гэтак: з канца загону, дзе растуць дзічкі, за дзесяць сантымэтраў ад першага папярэчнага раду дзічак, капаем цераз увесь загон равок шырынёй і глыбінёй каля сарака сантымэтраў. Потым ставім лапату з другога процілежнага боку ад раўка, за першым дрэўкам, нагой націскаем лапату на ўсю даўжыню жалеза ў зямлю і паволі адхіляем ручку лапаты у зад ад раўка, а дзічку з зямлёй вываранчываем у роў. Так капаюцца дзічкі скора, лёгка і рэдка калі здарыцца скалечыць карані. Да капаньня дзічак ды і агулам да працы ў садоўніцтве лапаты мусяць быць вострыя.

Выкапаныя дзічкі ня можна доўга дзяржаць на сухім паветры, а трэба іх у больш пэўным месцы часова прыкапаць. Кажу „ў пэўным месцы“ ў тым сэнсе, што з няпэўнага часам „добрыя людзі“... „прыхінуць.“ Прыкопка часова робіцца так: капаецца маленькі ра-

вок, а то і проста бярэцца гатовая баразна, кладуцца пучкі дзічак карэньнямі ў глыбіню і зьверху карэньне абсыпаецца зямлёй так, каб да карэньня не дахадзіў сухі вецер і паміж карэньня не сьвяціла сонца. Няпрысыпанае зямлёй карэньне можа засохнуць, а гэта дрэўцам шкодзіць.

Скончыўшы капаньне дзічак, прыступаем да сартаваньня іх. Сартуем на пяць сартоў: „Экстра,“ першы сорт, другі, трэці і брак.

Месца да сартаваньня дзічак выбіраем зацішнае, затененае, але віднае, найлепей дзе-небудзь пад страхой будыніны, не на ветры. Прыносім туды на раз больш дзічак і пачынаем сартаваць. Найперш адкідываем брак. У брак ідуць усе зусім крывыя дзічкі і тыя простыя, якія маюць карэньне не раскладзістае, а доўгае як бізун ці пазадзіранае ўгару, пакручанае паміж сабой так, што без калецтва іх ня можна расплесьці, паабдзіраныя і пашчапаныя пры капаньні, з маленькімі і большымі гузкамі карэньневага рака.

Да „Экстры,“ першага, другога і трэцяга сорту адкладываем дзічкі бязумоўна простыя, здаровенькія і з добра разрослай сыстэмай карэньня. Усе чатыры сарты розьняцца паміж сабой пераважна таўсьцінёй у шыйцы караня і ростам пня.

Шыйкай караня называецца тое месца ў дрэўца, якое дзеліць дрэўца на часьці падземную і надземную, ці ясьней сказаць, граніца паміж пнём і каранём іх.

Дзічкі, якія маюць у шыйцы караня таўсьціню больш за восем мілімэтраў, кладзем у „экстра,“ дзічкі таўсьцінёй ад пяці да васьмі (5 да 8) мілімэтраў — у першы сорт, а трох да пяці мілімэтраў—у другі сорт і ўсё цянейшае ад трох мілімэтраў ідзе ў трэці сорт.

У салідных цяперашняга часу гандлёвых пітомніках (школках) за добры матар'ял да шчапленьня лічацца толькі дзічкі „экстра,“ першага і другога сорту, а трэці сорт разам з бракам паліцца. Я сам у сваім уласным пітомніку пастулаю таксама. З заморанага ўжчэпу і найлепшы садоўнік ня выгадуе добрага дрэўца.

Трэці сорт дзічак, хоць яны маюць просьценькія пні і здаровыя карані, аднак забірае многа часу на перасадку і не заўсяды добра расьце. Перасаджываць трэці сорт дзічак будзе толькі той, хто мае іх мала, а часу многа.

Хто ня мае добрай управы (практыкі) адгадаць грубасьць шыйкі караня на пагляд, той няхай возьме кавалак дрэва і зробіць з яго дошчачку ў дваццаць пяць сантымэтраў даўжынёй, тры сантымэтры шырынёй і адзін сантымэтр угрубкі і на адным баку таўсьціні на тры сантымэтры ад канца дошчачкі зробіць чатыры нарэзы, адзін ад другога па тры сантымэтры. Першы нарэз ад канца шырынёй дванаццаць мілімэтраў, другі нарэз — восем мілімэтраў, трэці нарэз—пяць мілімэтраў і астатні — тры мілімэтры.

Зрабіўшы такую мерку, садзімся каля адабраных добрых дзічак, бяром па аднаму дзічку ў рукі і прыкладываем ім у вырэзы ў дошчачцы. Калі дзічок тонкі, зьмесьціўся ў вырэзе шырынёй у тры мілімэтры — ідзе да трэцьцяга сорту; дзічок, які зьмесьціцца у пяці мілімэтравым вырэзе, ідзе ў другі сорт, дзічкі таўсьцінёй ад пяці і да васьмі мілімэтраў ідуць у першы сорт і ўсе дзічкі таўсьцейшыя за восем мілімэтраў кладзём да сорту „экстра." Кожны сорт кладзём асобна, каб не памяшаць паміж сабой. Пасартаваныя дзічкі вяжам саломеным вязьмом па сто штук, прывязываем да зьвязанага пучка памалёваную на жоўта ці бела маленькую таблічку на дроціку і напісываем на гэтай таблічцы назоў гатунку дзічак, напрыклад: яблыня, ігруша ці іншае і якога выбару (сорту) дзічкі, напр.: „экстра," першага, другога ці трэцяга.

Пасартованыя і павязаныя ў пучкі дзічкі ня трэба доўга дзяржаць на паветры, а чым скарэй прыкапаць іх часова такім-жа спосабам, як і першы раз прыкопвалі па выкапцы.

Як толькі скончым сартаваць дзічкі, сьпяшым прыкапаць іх на зіму. Прыкопка робіцца так. Найперш выбіраем месца, дзе не задзержываецца вада, найлепш

на нязначным склоне, капаем там канаву давольнай даўжыні, шырыні да ста дваццаці сантымэтраў, глыбіні сорак пяць сантымэтраў, з роўным як стол дном. Бакі канавы мусяць быць абавязкава стацьцявыя. Пачынаем капаньне канавы ад вышэйшага месца. Пачаткавы папярэчны бераг канавы павінен быць укосны.

Да верху выкапанай канавы падносім насамперш дзічкі „экстра“ і пачынаем так самую прыкопку: кладзем на ўкосны бераг канавы блізка адзін каля другога дзічкі так, каб яны карэньнямі чуць датыкаліся дна, а вяршкі дзічак на сантымэтраў дзесяць — дваццаць каб былі відаць паверх канавы. Зложаны на бок канавы рад дзічак прысыпаем зямлёй і зямлю лёгка прыціскаем лапатай і на насыпаную ўкосна зямлю ставім новы і новы рады дзічак і кожны рад паасобку прысыпаем і заціскаем зямлёй.

Паміж кожнай тысяччу дзічак насыпаем вольны прамяжутак зямлі шырынёй сантымэтраў да дваццацёх. Робіцца гэта, каб магчы заўсёды палічыць, колькі маем дзічак. Прысыпаем зямлёй дрэўцы роўна з берагамі канавы.

Па скачнэньні прыкопкі „экстра,“ прыкапываем першы сорт, за ім другі і напасьледак — трэці сорт.

Па канцох кожнага сорту забіваем у зямлю моцныя калкі; на гладка выгаблеваных і памалёваных баках гэтых калкоў надпісываем звычайным чорным алаўком назоў і сорт дзічак. Хімічным алаўком ня можна надпісываць ні таблічак ні калкоў, бо хімічная надпісь ад вады расплываецца і хутка занікае.

Пры прыкапываньні дзічак трэба быць вельмі ўважным, каб не памяшаць гатункаў дзічкоў ігруш з яблынямі, ці наадварот, яблыні з ігрушамі, сьлівамі ці іншымі і сарты першы з другім ці трэцім.

Усе прыкопываемыя дзічкі трэба лічыць і адразу запісываць колькі іх, гдзе і які гатунак (сорт), і месца закопываньня іх нанесьці на самаручна зроблены плянік.

Канаваў (да закопываньня) капаем побач сябе гэтулькі, колькі іх нам трэба, адну недалёка ад другой.

Да прыкапаных дзічак прывозім яловыя ці ялаўцовыя сырыя лапкі. Найперш драбнейшымі лапкамі запіхаем усе вольныя мясцы паміж торчачых вяршкоў прыкопаных дзічак, а потым большымі лапкамі накрываем дзічкі зьверху.

Робіцца гэта дзеля дзьвёх прычын: каб мышы не загнезьдзіліся паміж каранёў і стволінаў дзічак і не паабгрызалі дзічак і каб у бязсьнежную ці маласьнежную зіму мароз не пашкодзіў дзічак.

Прыкрыўшы дзічкі лапкамі, ня маем больш з імі ніякай працы да самай вясны.

Месца пад пітомнік выбіраем больш роўнае, не на касагорах, зацішнае, пры вадзе. Зямля павінна быць ураджайная, чыстая ад пустазельля (сорных траваў), добра ўгноеная і на зіму заараная.

Ачышчаем зямлю ад пустазельля гэтак. За год да пасадкі на ей дзічак пры вясеньняй і асеньняй ворках ставім на палетку некалькі работніц з кошыкамі. Як толькі артай прагоніць плугом першую баразну, работніцы шагамі дзеляць яе на роўныя часьці, і кожная работніца на сваей часьці баразны выбірае карэньне, травы і складае яе ў кучы. — Кучы гэтыя потым звожваюцца ў адно месца, дзе складываюцца як стог і ляжаць там год—два, пакуль зусім ня згніюць і потым вернуцца на тую самую зямельку ўжо як гной.

Араць у пітомніку трэба глыбака і, калі ёсьць магчымасьць, за плугам пускаць паглыбяч, які ўзварушыў-бы зямлю глыбей ад плуга сантымэтраў на трыццаць. Перакопкі на перавал (папольску — ryglówka) цяпер нідзе у добрых пітомніках ня робяць, трымаюцца іх толькі людзі старога погляду. Перакопку на перавал на цэлым сьвеце замяняе глыбокая ворка.

Вясной, як толькі растае сьнег, зьбіраем усе лапкі з прыкрытых дзічак і пакуль зямля паміж дзічак адтае, зімовую ворку зямлі, як толькі яна трохі прасохне, барануем, стараючыся зубамі бараны засыпаць барозны.

Пасадку дзічак пачынаем вясной як найраней. Па абодвух папярэчных канцох грунту, гдзе будзем садзіць

дзічкі, туга нацягваем шнуры, раўналегла адзін да другога і прыціскаем іх да зямлі кручкамі, зробленымі з сукоў дрэва. Потым нацягваем шнур уздоўж гэтага пляцу пад простым кутом да папярэчных шнуроў і прыціскаем гэты шнур, як і першыя два, драўлянымі кручкамі да зямлі. Пры канцавых двух шнурах і ўздоўж кладзем доўгія простыя латы ці жэрдкі, па бакох якіх пароблены знакі (раўкі). На канцавых латах робім знак ад знаку на семдзесят ці восемдзесят сантымэтраў, а на тых латах, што кладуцца пры ўздоўж нацягнутым шнуры, робім знакі адзін ад другога на трыццаць пяць ці сорак сантымэтраў.

Нарэзы на латах пры папярэчных шнурох паказываюць нам, на якой адлегласьці трэба нацягіваць адзін шнур ад другога, а нарэзы на латах пры шнурох уздоўж пакажуць, як далёка трэба садзіць адно дрэўца ад другога.

Калі думаем абрабляць пітомнік матыкамі ці так званымі спульхнячамі „Norcross," дык шнур ад шнура ўздоўж будзем нацягіваць на семдзесят сантымэтраў, а дрэўцы садзіць адно ад другога на трыццаць пяць сантымэтраў; калі-ж думаем зямлю абрабляць ручным плянэтам, дык рад ад раду павінен быць па восемдзесят сантымэтраў і ў радзе дрэўца ад дрэўца па сорак сантымэтраў. Уздоўж найлепей адразу нацягваць дватры і болей шнуроў і пры кожным шнуры лажыць не па аднэй лаце, а па тры чатыры латы. Канцы латаў трэба шчыльна складываць, бо йнакш рады з папярэчнай стараны ня будуць роўныя. Як болей уздоўж шнуроў нацягнута, а пры іх болей лат наложана, дык скарэй ідзе пасадка.

Пры саджэньні дзічак у пітомніку ўсюды патрэбна акуратнасьць. Шнуры ўздоўж трэба правідлова нацягіваць па знакох, туга і абавязкава прышпіліваць кручкамі, латы са знакамі на пасадку дзічкоў лажыць роўна, упіраючы канец першай латы ў папярэчны шнур.

Прыкапаныя дзічкі бяром за вярхі і асьцярожна

выцягіваем іх з зямлі. Шыбкім рваньнем іх можам скалечыць карэньне. Выцягнутыя дзічкі йшчэ раз пераглядаем; калі прыпадкова акажуцца сапсутыя, дык іх адкідываем, а ў добрых на адну трэцюю часьць адрэзваем сэкатарам ці нажом верх; скарачываем карэньне, каб у сярэднім былі даўжынёй ад дванаццаці да пятнаццаці сантымэтраў.

Пры пасадцы дзічкоў заўсёды мусім трымацца наступнага правіла: на самую лепшую зямлю садзім дзічкі другога сорта, на сярэднюю зямлю садзім дзічкі першага сорта і на горшую — дзічкі „Экстра".

Як нам ужо ведама з сартаваньня, „Экстра" гэта дзічкі самыя здаровыя і большыя і калі яны будуць пасаджаны на лепшую зямлю, дык за лета вырастуць надта вялікія і таўстыя і калі мы іх заачкуем, дык на іх прыймецца зусім малы працэнт вочак. На грубых дрэўцах ачкаваньне не ўдаецца. Тое самое можа быць на добрай зямлі і з першым сортам. І будзе ня добра, калі мы пасадзім другі сорт на горшай зямлі: дзічкі не падрастуць за лета і будзе малы працэнт зашчэпленых і прыняўшыхся.

Абрэзаныя дзічкі нясём да нацягнутых шнуроў, там ад сонца й сухавею накрываем іх старымі тоўстымі пасьцілкамі ці проста прыкапываем іх зямлёй. Пасадку найвыгадней рабіць партыямі па два чалавекі ў кожнай. Адзін бярэ ў рукі лапатку, а другі дрэўца і падносе яго да латы, становіць на зямлі насупраць самога знака на лаце і ў дзесяці сантымэтрах ад шнура — і распраўляе на бакі карэньне. Першы работнік знача лапатай з чатырох старон каранькоў шырокасьць ямкі, якую адразу і капае. Берагі ў ямцы павінны быць абавязкава стацьцявыя, а ня ўкосныя. Па сярэдзіне ямкі насыпаецца копчык, на які ставіцца дзічка, карэньне распраўляецца, абсыпаецца зямлёй і крыху ўтаптываецца. Пры пасадцы трэба глядзець, каб карэньне ня было задзёрта ўверх. Калі зямля была заарана на зіму, а вясной толькі забаранавана, дык садзіць дзічкі трэба на два-тры сантымэтры мялчэй, чым

як яны расьлі да гэтага часу. Калі-ж зямля ў пітомніку арана вясной, дык дзічкі садзіць трэба на чатырыпяць сантымэтраў глыбей, чым дзічок рос дагэтуль. Садзім глыбей дзеля таго, што зямля асядзе, і карэньне апынецца на версе. Калі які дзічок мае корань добры, а пень крываваты, дык садзіць трэба яго так, каб крывізна была выхілена да суседняга дзічка, але ні ў якім выпадку ў сярэдзіну, да баразны, бо выхіленыя дрэўцы ў міжрадкавых барознах моцна перашкаджалі-б у працы і псавалі-б сам выгляд радоў.

Пасаджаных дрэўцаў паліваць ня трэба: зямля йшчэ даволі сырая і ўсе дрэўцы без паліўкі прыжывуць.

З пасадкай ніколі ня можна пазьніцца. Чым раней пасадзім, тым будзе лепш.

Пасьля пасадкі дзічкоў, зямлю на ўсей плошчы пасадкі трэба безадкладна ўспульхніць сантымэтраў на пяць-восем. Няўспульхненая зямля хутка ўсохне, моцна сьцьвярдзее, потым трудна будзе даць ей раду і дзічкі праз гэта могуць вельмі ўцярпець.

Калі хто пажалее трэці сорт зьнішчыць, дык павінен яго пасадзіць ня ў пітомніку, а ў тым месцы, гдзе гадуем першы год дзічкі, на такіх-жа загонах і так-жа густа, як расьлі яны ў прошлае лета.

Праз усё лета ў пітомніку дзічкі трэба часта палоць і па кожным большым дажджы ўспульхняць зямлю. Так дагляданыя дзічкі ня будуць баяцца сушы і будуць добра расьці.

У часе кожнага палоньня зямлю ня трэба адкапываць ад карэньня, а наадварот, трэба з барознаў нагортываць яе да радкоў дрэўцаў. Ніколі і нікому ня раджу садзіць дзічкі ў пітомніку восеньню. Маразы нашы ў большасьці выпадкаў моцна выцягіваюць карэньне дзічкоў з зямлі і падмаражываюць іх.

**Іван Сікора.**

8 студня 1938 году,
Вёска Алашкі Малыя,
п-та Полава (Połowo), Пастаўскага павету.

# Як і калі прышчэпліваць садовыя дрэвы?

Нашто прышчэпліваем садовае дрэва? Як і калі трэба прышчэпліваць? — На гэтыя два пытаньні пастараемся тут даць адказ.

Прышчэпліваем дрэва на тое, каб яго палепшыць, бо ніводнае дрэва ня будзе радзіць добрых пладоў, калі яго пакінуць расьці так, якім яно абыйшло з засеенага зярняці. Гэткае палепшаньне называюць прышчэпліваньнем дзеля таго, што растучаму дрэўцу, найчасьцей — маладой дзічцы, дадаюць (прышчэпліваюць) пры гэтым малую галінку з здаровага, добра растучага дрэва, якое пры гэтым родзіць добрыя плады. На гэту думку прыйшлі людзі тады, калі заўважылі, што дзьве галінкі дрэва зрастаюцца з сабой, калі іх шчыльна прылажыць да сябе жывым месцам, гэтак званай мяздрой, якая знаходзіцца зразу пад карой.—Для яснасьці дальшай гутаркі аб прышчэпліваньні, умовімся называць тое дрэўца, якое хочам палепшыць — **падкладкай**, а тую галінку (сучок), якую зразаем з добрародзячага дрэва і прышчэпліваем на падкладку — **зрэзам**, або прышчэпам (бо мы гэту галінку з р а з а е м).

Спосабаў прышчэпліваньня (датарнаваньня зрэзу да падкладкі) ёсьць некалькі. Усе яны аднак кіруюцца да аднэй мэты: каб зрэз як найхутчэй зросься з падкладкай. Рознаякасьць спосабаў прышчэпліваньня тлумачыцца тым, што выконваецца гэта работа ў розныя поры году ды што падкладка бывае рознай грубіні: інакш прышчэпліваем вясной, інакш—улетку, інакш —

на падкладку маладую (тонкую), інакш — на старую (грубую). — Само прышчэпліваньне ня ёсьць працай цяжкай, але вымагае пэўнага спрыту, упраўкі, якую ня можна здабыць ні чытаньнем, ні нават беспасярэднім глядзеньнем як нехта іншы гэту работу робіць: навучыцца добра прышчэпліваць можна толькі самай працай. Каб-жа не псаваць лішне жывога матар'ялу, найлепш вучыцца прышчэпліваньня складаючы адпаведна два кускі галінкі звычайнага лазьняка, вербы ці нечага падобнага. Калі гэта праца ўжо пойдзе гладка, тады бяз страху можна прыступаць да самага прышчэпліваньня сапраўднага.

На пададзеных(бач.21, 23)рысунках паказаны некаторыя найбольш пашыраныя спосабы прышчэпліваньня: злучаньне, кажухаваньне, вочкаваньне. Перагледзім гэтыя спосабы папарадку.

1. Спосаб **злучаньня** паказаны зьлева (першыя тры галінкі): першая галінка — зрэз, другая — падстаўка, трэцяя — зрэз злучаны з падстаўкай. Спосаб гэты вельмі просты і добры, але магчымы толькі тады, калі і падстаўка і зрэз бываюць аднолькавай грубіні. Асаблівасьцяй спосабу злучаньня ёсьць тое, што яго можна стасаваць і вельмі раньняй вясной, калі ў дрэве йшчэ не зварушыўся сок. Парадак працы гэткі: падстаўку і зрэз зразаем вострым нажом наўскос так, каб плошча зразаньня была як можна даўжэйшая. На зрэзе мусяць быць 2—3 здаровыя вочкі, прычым адно з іх павінна знаходзіцца насупраць самага месца зразаньня. Зрэзаўшы гэтак падстаўку (пянёк) і зрэз, складаем іх як можна найшчыльней, стараючыся, **каб як найдаўжэйшы паясок кары зрэзу злучаўся з такім-жа паяском падстаўкі (пня).** Каб злучаны зрэз мацней сядзеў на падстаўцы, робяць часам на іх зубцы, каторымі абедзьве спалучаныя веткі дакладка зазубляюцца. — Калі гэта зроблена, прыкладаем зрэз на падстаўку і, прытрымліваючы іх двума пальцамі левай рукі, правай рукой акручваем месца злучэньня старанна і моцна ліповым лыкам або гэтак званай рафіяй

(лыкам з пальмавага дрэва) і дакладна замазываем усе берагі ўшчаповай масьцю, каб усярэдзіну не даставалася паветра: гэта памагае хуткаму зрастаньню. Усю працу пры шчапленьні трэба выконываць скора, не марудзячы, каб ня высыхалі ні зразы, ні падкладкі. Дзеля гэтага-ж ня можна шчапіць у гарачы сонечны дзень і калі пагода стаіць добрая, дык прышчэпліваць трэба або рана да 9-ай гадзіны, або паабедзе ад гадзіны 4-тай уніз.

2. Найлягчэйшым і таксама вельмі пашыраным спосабам прышчэпліваньня ёсьць гэт. званае **кажухаваньне.** Стасуецца гэты спосаб аднак толькі тады, калі падкладка грубейшая (старэйшая), як прышчэп (зрэз); прышчэпліваць спосабам кажухаваньня можна толькі тады, калі ў дрэве пойдзе сок і кара лёгка адстае ад дрэва (м-ц красавік). На рысунку спосаб кажухаваньня паказаны чатырма фігурамі з правага боку. Падкладка пры гэтым роўна зразаецца. Адначасна прыгатаўляецца і зрэз седлаватым клінком так, як гэта паказана на рысунку, абапал грубейшага пня. Калі зрэз гатовы, дык каб ён ня высах, прамываем ў вадзе і бяром у губу, а на падкладцы ад самага верху ўніз большменш на адну пядзю разразаем роўна кару, крыху яе адхіляем і шчыльна прыкладаем загадзя прыгатаваны зрэз. Тады адхіленую кару захіляем узноў і прыціскаючы левай рукой, правай абкручываем так, як гэта паказана на апошняй фігурцы з правага боку. Гэтак асаджаны прышчэп старанна замазываем ушчаповай масьцю і работа скончана.

3. Падобным да кажухаваньня ёсьць яшчэ **прышчэпліваньне на прыстаўку,** а так жа прышчэпліваньне **ў шпару.** Гэтых спосабаў на рысунку няма, але яны ў шмат чым падобныя да кажухаваньня. Розьніцца-ж такое, напрыклад, прышчэпліваньне на прыстаўку ад кажухаваньня тым толькі, што на падкладцы ня толькі адлупліваецца кара, але ў ёй (у падкладцы) вырэзваецца з боку равок, у каторы пасьля ўсаджваецца адпаведна абрэзаны зрэз, які пасьля таксама зьвяз-




Прышчэпліваньне дрэваў спосабам: а) злучаньня (першыя тры фігуркі з — лева) і б) кажухаваньня (чатыры фігуркі з — права).

ваецца і абмазваецца ўшчаповай масьцю, як пры кажухаваньні. — Пры прышчэпліваньні ў шпару роўна зрэзаная — як пры кажухаваньні—падстаўка расшчэпліваецца зьверху нажом і ў гэты расшчэп устаўляецца загадзя прыгатаваны зрэз, канец катарага на плоска абструганы з двух бакоў. Месца, дзе зрэз злучаецца з падстаўкай, старанна абмазваецца ўшчаповай масьцю і лёгка абвязваецца.

Кажухаваньне, прышчэпліваньне на прыстаўку і ў шпару можна рабіць толькі ў пару, калі ёсьць у дрэве сок, прычым падстаўка заўсяды мусіць быць грубейшая як зрэз.

Агульная ўрэшце ўвага да разгледжаных вышэй спосабаў прышчэпліваньня — каб ні ў якім выпадку ня прышчэпліваць „прабуджанага“ зрэзу, асабліва ж, калі падкладка йшчэ „сьпіць“ (ня мае соку), бо тады прышчэплены зрэз адразу патрабуе шмат соку, а не знайшоўшы яго — замірае з голаду. Таму зрэзы трэба старанна хаваць ад доступу цяпла.

4. Апошнім ўрэшце спосабам прышчэпліваньня пладовых дрэваў, паказаным на бачыне 23-яй, ёсьць гэтак званае **вочкаваньне**. Называецца яно так дзеля таго, што на падкладку прышчэпліваецца ня цэлы сучок (зрэз) з некалькімі вочкамі, а толькі адно **вочка**. Гэты спосаб прышчэпліваньня ўжываецца ўлетку, праз увесь месяц жнівень, калі сокі другі раз прыплываюць у дрэва (першы раз прыплывае сок раньняй вясной). Найлепш ужываць гэтага спосабу да падкладак маладых з тонкай карой; на падкладцы старэйшай прышчэпліванае вочка прыжывае вельмі цяжка.

Першай справай пры вочкаваньні ёсьць: даведацца, ці ёсьць у дрэве сок. Дзеля гэтага на падкладцы прызначанай да прышчэпліваньня вострым нажом разрэзваем накрыж кару аж да жывога дрэва і прабуем, ці гэта кара лёгка адстае: калі так, дык знача сок ёсьць і шчапіць можна: калі-ж кара не адстае і толькі раздзярэцца, дык знача соку няма.

Парадак работы пры способе вочкаваньня гэткі: запасіцца трэба ў добрае тонкае ліповае лыка (або рафію) і ў сёлетнія сільныя зрэзы (толькі не „ваўкі!“) з здаровых добрародных дрэваў. Трэба памятаць, што зрэзы ў гэту (летнюю) пару вельмі чуткія на сухасьць,



**Прышчэпліваньне дрэваў спосабам вочкаваньня. 3—лева: вочка з сярэдзіны і з надворку. Далей у права: нарэзаная кара прад шчапленьнем і апошняе — дрэўца прышчэпленае і абвязанае лыкам.**

таму за раз трэба зрэзываць іх гэтулькі, колькі за адзін дзень можна выкарыстаць: зразу трэба абарваць з зрэзаў лісты, пакідаючы толькі трончыкі, і ўставіць у збан з вадой, каб ня вянулі. Вочкі на зрэзах выбраных да прышчэпліваньня павінны быць грубыя і набрыняўшыя, а знаходзяцца яны пад неабарванымі трончыкамі лістоў.

Дальшы поступ працы гэтакі: —

Пень прышчэплiванай падстаўкі абціраецца чыстай намочанай у вадзе шматкай. На абцёртай гэтак кары нарэзваецца вострым нажом літара „т“ так, як гэта паказана на рысунку, а сама кара асьцярожна адхінаецца. Тады бярэцца з збана галінка зрэзу і з яе вырэзваецца вочка так, каб пад ім разам з карой было і крыху маладога дрэва (мяздры). Гэтак вырэзанае вочка асьцярожна ўкладаем за адхіленую кару прышчэпліванай падстаўкі так, каб спад яе выглядала наверх толькі самае вочка. Лішнюю кару вырэзаную з вочкам, якая ня

месьціцца пад карой падкладкі, абрэзваем, а адхіленую прад тым кару падкладкі нанова закладаем так, як яна была прад нарэзваньнем літары „т," прычым само вочка, разам з чаранком (трончыкам) ліста мусіць выставаць наверх. Калі гэта зроблена, тады абвіваем прышчэпленае месца лыкам так, каб вочка мела вольнае месца дзеля росту і замазваем ушчаповай масьцю.

На гэтым работа і кончыцца. Астаецца цяпер толькі дагледзіць, ці прышчэпліваньне прынялося. — Чаранок ліста праз 2—3 тыдні пажаўцее і адпадзе, а і самае лыка ў гэтым часе таксама можна ўжо адвязаць.

Прышчэпліваючы дрэва спосабам вочкаваньня, трэба сьцерагчыся, каб гэта вочка ня вырасла ў галінку да зімы тагосамага йшчэ году. Дзеля гэтага ня можна прышчэпліваць раней месяца жніўня, а і самае прышчэпліваньне трэба рабіць з паўночнага боку дрэўца, куды не даходзіць сонца і не пабуджае вочка да росту.

В. Р.



# У садку вясной.

Каб праканацца, у якім дрэнным стане знаходзяцца нашыя сады, як яны запушчаны—досыць праехаць у якім хочачы кірунку 50—100 кілёмэтраў. З напатканых садоў можа знойдзецца адзін, які выглядае так, як трэба; рэшта ж гэта гора.

Каб зьмяніць гэтыя нашыя запушчаныя сады на прыгожыя, на высокаўраджайныя й даходныя, дзеля гэтага не патрэбны ані вялікія выдаткі і многа працы, а трэба мець толькі крыху добрай ахвоты і сьведамасьці. Кожны дзень досыць патраціць для малых садкоў 5—10 мінут, а для большых — паўгадзіны ці гадзіну часу — і садкі нашы стануцца не да пазнаньня: харошыя па выглядзе і даходныя ў гаспадарцы. Дык адкінем-жа нашу нядбаласьць і зробім так, каб нашыя сады сталі ў адным радзе з найлепшымі на сьвеце!

Самыя галоўныя недахопы нашых садоў наступныя:

1. Густая пасадка пладовых дрэў.

2. У многіх садох паміж добрых дрэў пасаджаны нядобрыя, маладаходныя гатункі.

3. У маладых і старых дрэў кароны запушчаны, густыя, самі сабе шкодна заценяюць; сукі крыжуюцца, адзін з другога абдзіраюць кару. У старых дрэў шмат нявыразанага сухога суччa. Усё суччо, тонкае і грубое, як і сам пень, пакрыты living розными паростамі — мохам і лішайнікамі, кара старая вісіць стрэп'ямі, несаскоблена; самыя дрэвы ў значным ліку дуплястыя і дуплы не заліты, расшчэплены і нязьвязаны.

4. Дрэвы ніколі ня белены вапнай і не абпырсківаны хімічнымі сродкамі процiў рабакоў.

5. Многія сады растуць на запушчанай пожні і ніколі ня ўгнаіваюцца; у тых-жа садох, дзе зямля абра-

бляецца, заўсёды кругі каля пня заросшы бываюць пустазельлем.

Пералічаныя недахопы трэба цяпер-жа адразу паправіць, бо іх моцна адчувае наш кішэнь.

**Прарэджваньне густых карон у садовых дрэваў.** Дзе сады загушчаныя, там ніколі ня можна мець пладоў добра вырашчаных і смачных. У нормальна заложаных садох яблыні і йгрушы ніколі ня будуць пасаджаны бліжэй дрэва ад дрэва ў квадрат, як восем з палавінай да дзесяцёх ($8^{1}/_{2}$ да 10) мэтраў.

У палове месяца сакавіка (марца), яшчэ ў канцы зімы, прыступаем да прарэджваньня карон пладовых дрэў і робім гэта да канца м-ца траўня (мая). Восеньню, перад наступленьнем маразоў і зімой у нашых кліматычных варунках абрэзку рабіць ня можна, бо яна тады шкодна адбіваецца на здароўі абрэзаных дрэў.

Выразаем у кароне ўсе сухія сукі, далей — усе сукі, што крыжуюцца паміж сабой і ўсе горшыя, што заценяюць карону. Піла да абрэзкі мусіць быць вострая, зрэз — гладкі. Пасьля пілы, зрэз трэба згладзіць вострым нажом ці стругом і замазаць садовай мазьзю ці клустай цэгляной глінай, зьмешанай з пятай часьцю на меру сьвежага каровяга гною. Калі мова аб зразаньні, дык яно ня сьмее быць ані за нізкое, ані за высокае; гэта знача зразаць сук трэба над **самым кругам**, які знаходзіцца ў тым месцы, дзе сук выходзіць з пня, ці з другога грубейшага сука. Бо калі мы зробім зрэз ніжэй круга, дык зробім вялікую рану, якая доўга не зарасьце; таксама ня можна зразаць сука і многа вышэй круга, бо тады торчачы адрэзак (пень) ня можа зарасьці, трэпіцца, у рану заходзіць вада, сам сук загніваецца, гніль пераходзіць ува ўсё дрэва, у дрэве робіцца дупло, і само дрэва, дзеля неправідловай абрэзкі, без пары гіне.

Доўгія пянькі пры абрэзцы астаўляюць людзі нясьведамыя ў садоўніцтве, што рабіў калісьці й я сам, з тэй добрай людзкой думкай, што доўгія пянькі ня так балючыя для дрэва, як кароткі па крузе абрэз.

Тымчасам відзім, як шкодна для дрэва абрэзка сукоў з доўгімі пянькамі.

**Ачышчаньне дрэва. Заліваньне дуплаў.** Пасьля абрэзкі сукоў кароны, на старых дрэвах трэба абавязкава, найлепш у вільготную пагоду, саскрабаць зусюль, дзе толькі ёсьць: мох, лішайнікі і старую кару. У маладых садох дрэвы рэдка маюць паросты моху і лішайнікоў. Мох і лішайнікі вельмі шкодныя для дрэў тым найперш, што яны растуць на дрэве і жывяцца ягонымі сокамі і па другое, у моху і лішайніках гнезьдзяцца розныя жывыя шкоднікі, якія аб'ядаюць лісьцё, цьвет і плады, а апрача таго мох і лішайкі перахоўваюць і разносяць розную заразу пладовых дрэваў і самых пладоў.

Стрэп'е старой кары, аж да здаровай, трэба саскрабсьці, бо ў шчэлінах яе плодзяцца, хаваюцца і зімуюць тысячы розных шкоднікаў пладовага дрэва. Саскробываць старую кару можна скрабачкамі, вялікім, ня зусім вострым, тоўстым нажом, ці проста куском зялеза (куском старога зьеждажанага падрэза). На старых грушах цьвёрдую кару найлепей саскрабаць скобляй.

Падчас саскробваньня з дрэва моху, лішайнікаў, старой кары, унізе пад дрэва трэба разаслаць старую, але цэлую, нядзіравую посьцілку, на якую будуць спадаць з дрэва ўсе паскробкі і іх можна будзе сабраць і **спаліць.** Калі-ж іх не сабраць і не спаліць, дык рабакі з іх павылазяць і ўзноў успаўзуць на дрэва.

У садох, дзе дрэвы высокія і моцна абросшыя мохам і лішайнікамі, да вярхоў дрэў трудна са скрабачкай далезьці, там для зьнішчэньня паростаў трэба абавязкава ў працягу двух-трох гадоў кожную вясну перад набуханьнем пупушак (не пазьней!) абпырскаць дрэвы шасьціпрацэнтным (6 прац.) растворам зялезнага купарасу (siarczanu żaleza). Мацнейшага як і слабейшага ад 5 прац. раствору ня можна ўжываць: першы спаліць многа ліставых пупушак і цьвету, а другі будзе зусім безкарысны, бо за слабы.

Раствор прыгатаўляецца так: бярэцца драўляная

пасудзіна, уліваецца ў яе дваццаць літраў цёплай рэчнай ці вазёрнай вады, у якую апускаецца палатняны мяшочак з шасьцю кілёграмамі зялезнага купарасу і палошчыцца аж да таго часу, пакуль купарас зусім не разойдзецца. Потым гэты раствор мяшаецца з васьмідзесяцьцю (80) літрамі мяккай летняй вады.

Раствор прыгатаўляецца залежна ад патрэбы — ў большай, ці меншай колькасьці літраў вады.

Адзін кілёграм зялезнага купарасу каштуе каля 30 грошоў.

Адкрытыя дуплы ў старых дрэвах трэба чыста вычысьціць, пасьля насыпаць у іх сухога дробнага ці шчапанага каменя і заліць да верху густа разьведзенай вапнай ці цэмэнтам. Пасьля гэтага дрэва перастане ў сярэдзіне гніць і зьверху рана скора зарасьце, калі толькі само дрэва не запушчана і мае добры выгляд.

Шмат на якіх пладовых дрэвах можна знайсьці сухія, зморшчаныя маленькія яблычкі і сухое, скручанае павучыньнем лісьцё, якое моцна трымаецца праз зіму да самай вясны. Яблычкі гэтыя і лісьцё трэба канешна сабраць і спаліць: яблычкі разносяць плямісты грыбок, які пляміць і псуець нашыя плады, а ў скручаных лісточках зімуюць чарвячкі (гусеніцы) баярышніцы, якія з наступленьнем цёплай вясьнянай пагоды выходзяць з зімовых гнёздаў і пачынаюць аб'ядаць лісьцё і цьвет. Дзеля гэтага як яблычкі, так і скручанае лісьцё трэба зьняць да прыходу цяпла.

Зімой і вясной, да часу распусканьня лісьця ў садку, на тоненькіх як гусінае пяро сучкох можна часта спаткаць шэранькія, быццам з маку зьлепленыя колцы (напарсткі). Колцы гэтыя на вошчуп цьвёрдыя. Іх трэба зьняць, або з сучком зрэзаць і спаліць, бо гэта яйкі матыля персьценіцы. З кожнага яечка выйдзе вясной досыць вялікі паласаты чарвячок, падобны да капуснага, які адразу прыймецца аб'ядаць маладыя лісточкі на дрэвах.

**Падчыстка і пабелка дрэваў.** Па заканчэньню абрэзкі дрэваў і падчысткі ад моху і лішайнікаў, трэба ў усіх дрэвах у садзе пабяліць усе пні і тоўстыя сукі, як толькі можна дастаць, вапнай, з дамешкай сьвежага каровяга гною.

Вапна да бяленьня мусіць быць нягашаная, гэта знача яшчэ ў каменьнях, а ня ў муцэ. Старая вапна нічога ня варта. На кожнае вядро разьведзенай як сьмятана вапны дадаём палавіну (1/2) кілёграма сьвежага каравяку. Абмазка з каравяком двойчы даўжэй трымаецца на дрэвах. Пабелку дрэў найлепш рабіць раньняй вясной.

Вапнаваньне дрэў карысна для саду тым: пад канец зімы пабеленыя дрэвы ў ясныя дні моцна ад сонца не награваюцца і на дрэвах ня бывае спаленых сонцам мясцоў, на якіх праз гады два-тры злазіць кара, і дрэвы потым стаяць з чорнымі палосамі, без кары.

Вапнай дэзынфікуем дрэва, залепліваем усе шчэлкі ў кары і разам жывых шкоднікаў і іхнія яйкі. Кара пасьля пабелкі становіцца мякчэйшай, ня сьціскае дрэва як бляха, і дрэва лепей расьце.

Хто мае сад стары і дрэвы пасаджаны вельмі густа, там няма іншай рады, як толькі горшыя, слабейшыя дрэвы выкінуць, а тыя, што астануцца, лепш на прасторы пачнуць расьці і лепш аплацяцца.

**Абпырсківаньне пладовых дрэў.** Абпырсківаем пладовыя дрэвы на тое, каб зьнішчыць рабакоў і розныя заразныя хваробы пладоў і дрэў.

Абпырсківаем дрэвы чатыры разы ў год. Першы раз абпырсківаем садоўніцкай карболінай 5 прац., у дзень ціхі і не марозны, у канцы сакавіка ці ў пачатку красавіка (да часу распусканьня пупушак), каб зьнішчыць яечкі розных шкоднікаў; другі раз 1 прац. (адна працэнтным) растворам бордоскай цечы з дадаткам сто (100) грамаў парыскай зелені, перад самым цьвіценьнем, як толькі пупушкі заружавеюць. Гэта самае важнае абпырсківаньне на зьнішчэньне грыбка плямістага. Трэці раз абпырсківаем поўпрацэнтнай

(½ прац.), бордскай цечай з дадаткам 100 грам. парыскай зелені на сто літраў цечы. Чацьверты раз абпырсківаем паўпрацэнтнай (½ прац.) бордоскай цечай, калі плады дарастуць да велічыні ляскавага гарэха.

Пры другім, трэцім і чацьвертым абпырсківаньні можна замест бордоскай цечы ўзяць каліфорнійскую цечу з дадаткам на кожныя сто літраў цечы, дзьвесьце пяцьдзесят (250) гр. алавянага аршэніку.

Каб у нашых садох найменш было ўсякіх шкодных рабакоў, кожны ўласьнік саду мусіць у садку мець хоць пару дуплянак ці скрыначак на гнёзды для шпакоў. Ведаю добра з сваей уласнай практыкі, як многа шпакі дапамагаюць садаводзтву.

Сады мусяць быць чыстымі ад траваў і розных сарнякоў. Пожні ў садку ніколі ня можа быць, зямля мусіць быць на плошчы ўсяго саду ўзарана. На чорнай зямлі каля дрэў палосы мусяць быць перакопаны. Сады трэба ўгнаіваць. Гной трэба класьці зьверху і пасьля няглыбака аборываць і прыкрываць. Хто мае ў сябе вішні і сьлівы, якія цьвітуць, а ня родзяць пладоў, той павінен пад кожнае дрэва пасыпаць ад аднаго да двух кілёграмаў вапны пад усей каронай і за каронай сантымэтраў па восемдзесят (80) і перакапаць з зямлёй.

---

У старых садох вельмі часта і многа прыходзіцца спатыкаць дрэвы зусім высахшыя, каля пнёў якіх ёсьць ня мала адросткаў дзікіх. З гэтых адросткаў трэба выбраць адзін лепшы і прышчапіць, а стары сухі пень зрэзаць. Садовая практыка паказала, што куды лепш прышчапіць такі дзікі адрасток, чым выкарчовываць старое дрэва і на месца яго садзіць маладое.

**Іван Сікора.**

# Барацьба са шкоднікамі ў садзе

Барацьбу пачынаем ужо зімой, або якнайраней вясной. Перад усім абходзім ўсе дрэвы, нават дзікія, якія растуць у садзе, або каля саду і старанна зьбіраем з іх гнёзды матылёў і кузурак, якія скрываюцца ў сухім лісьцю, вісячым дзе-недзе на дрэвах. Пэўныя, шкодныя матылі складаюць яечкі на тоненькіх галінках дрэваў, густа зьлепліваючы іх паміж сабою ў пярсьцёнак. Кожная кропка гэтакага пярсьцёнка, гэта паасобнае яечка, з якога вясной выйдзе гусьвіца, а дзеля таго, што іх разам будзе некалькі соцен, то могуць аб'есьці ўсё маладое лісьцё на дрэве. — Вось гэтыя **«пярсьцёнкі» трэба абіраць і паліць.**

Некаторыя шкодныя кузуркі зімуюць пад нягладкай і палопанай карой; хочучы іх зьнішчыць, трэба кару абскрабсьці тупым нажом або сярпом. Скрабаць трэба асьцярожна, каб ачысьціць дрэва ад нягладкага, адстаючага (няжывога) пласту кары, але не закрануць сподняга, белага, жаўтаватага або зялёнага пласту.

Рана вясной, калі толькі дажджы не перашкаджаюць, трэба дрэвы пабяліць вапнай. Гэткае бяленьне карысна тым, што нішчыць розны мох, які, растучы на дрэве, цягне з яго сокі. Апрача таго бяленьне забівае кузуркі і іх яйкі, каторыя знаходзяцца ў шчэлках кары. Беленыя дрэвы ня лопаюць, што часта здараецца з дрэвамі нябеленымі, калі вясной дні ўжо крыху цёплыя, а ночы марозныя: тады сокі ажыўленыя з паўднёвага боку сонечным цяплом, пачынаюць у дрэве рухацца, а пасьля ўночы замярзаюць і расьпіраюць кару.

Белім дрэвы пэндзлем даволі густой сумесяй гашанай вапны, гліны, каравячага гною і попелу.

Але гэтых захадаў яшчэ не даволі. Ёсьць шмат

такіх шкоднікаў і грыбковых хваробаў, якіх гэтымі простымі сродкамі зьнішчыць ня здолеем. Тут прыходзяць нам на помач апырсківаньні хэмічнымі сродкамі. Ёсьць іх вельмі шмат розных фірмаў і пад рознымі назовамі, але дзеля таго, што яны вельмі дарагія, то нават пералічываць іх ня будзем. З прасьцейшых сродкаў проціў грыбковых хваробаў успомнім: „бардоскую" жыжку*), якой апырсківаем дрэвы рана вясной, перад лісьцём і як дрэвы перацьвітуць. Проціў кузурак і гусьвіцаў ужываюць г. зв. „Зелень Парыскую"**), якой абпырсківаем дрэва, калі распусьціцца лісьцё і зьяўляюцца кветкі.

Апошнім часам людзі стараюцца замяніць гэтыя сродкі яшчэ танейшымі. І вось чытаем у фаховых часапісах, што робяцца пробы абпырсківаньня дрэваў штучнымі пагноямі, напр. патасовай соляй; калі яна 25 прац. а то ў стасунку $2^1/_2$ кл. на 100 літ. вады. Соль распускаецца ў цёплай вадзе і тады ўліць яе ў 100 л. вады і добра разьмяшаць. Перад ужываньнем трэба сумесь перацадзіць. Абпырсківаць рана вясной і пасьля адцьвітаньня.

Іншыя абпырсківаюць у сябе сьлівы проціў вельмі шкоднай кузуркі г. зв. місачніка, каінітам, бяручы на 100 літ. вады 10—15 кл. каініту і кропіць гэтай сумесяй сьлівы два разы: у лютым і ў сакавіку.

А. В.

---

*) 1 кілё меднага купарвасу ($CuSO_4$) распушчаецца ў 10 літрах вады; пасьля 1 клг. гашанай вапны распушчаецца ў 10 літрах вады. Усё гэта мяшаецца і ўліваецца ў 80 літр. вады. Цечу гэту трэба разводзіць у начыньнях каменным, або дзераўляным, бо мэталёвыя разьядаюцца.

**) „Зелень" купляем у аптэках. Разводзім так: 15 дэка (150 грамаў) „зелені" на 100 літраў вады і клею з 1 кіля жытняй мукі. Перад ужываньнем трэба добра перамяшаць.

# Шкоднікі нашых садоў і змаганьне з імі.

У нашых садох ёсьць шмат розных шкоднікаў, каторыя вельмі часта робяць шкоды культурам дрэўным, што моцна ўплывае на кішэнь гаспадароў-садоўнікаў. І вось я хачу на гэтым месцы магчыма коратка пазнаёміць нашых садоўнікаў з выглядам найважнейшых, шкадлівых аваднёў (жамяры, палац. Insecta), іхняй біолёгіяй*) і спосабамі змаганьня з імі. Рабіць буду гэта паводле парадку прынятага ў навуковай сыстэматыцы.

## І. Клапы (Hemiptera).

З інтэрэсуючых нас аваднёў належаць тутака перад усім: Мядоўкі (Psyllidae). Мошкі (Aphididae) і Шчытковыя мошкі (Coccina).

а) Мядоўкі (*Psyllidae)* — гэта вельмі, дробненькія авадзёнкі, з прыплюшчаным целам, каторыя высысаюць пучкі, а пасьля ўлазяць у іх сярэдзіну. У нас выступаюць два гатункі:

Ігрушная мядоўка *(Psylla pyricola* — Först) — належыць да вельмі шкодных для ігруш. Колер: лярваў**) — жоўты, німф — зялёны з бранзовым рысункам, дарослых (imago) — жоўты або чырвона-бранзовы ў чорныя паяскі. Зімуюць у форме дарослай у шчэ-

---

*) Біолёгія — навука аб жыцьці.

**) Усе авадні, у тым ліку і мядоўкі, праходзяць нармальна чатыры разваёвыя ступені: 1. яечка. 2. лярва (вусеніца), 3. пачварка (каўшак або люлечка) і 4. сьпелая форма.

лінах кары, а вясной саміцы складаюць яечкі. Шкоднік гэты расьце вельмі хутка, так, што ў працягу 4-х тыдняў даходзіць ужо да формы дарослай, дзеля чаго за адно лета выступае 4, а нават і 5 пакаленьняў. Пад уплывам іх ссаньня лісты і плады передчасам ападаюць і дрэвы затрымліваюцца ў разьвіцьці.

Другі гатунак мядоўкі, Яблынная мядоўка (*Psylla mali* — Först) выступае на яблынях, але ў нас вялікіх шкод ня робіць.

Спосабы змаганьня з мядоўкамі галоўным чынам палягаюць на абпырсківаньні зімой дрэў садоўніцкім **karbolineum'am.** Калі гэтага ня зробіцца, то тады трэба вясной нападзеныя дрэвы абпырсківаць іншымі сродкамі, ужыванымі проціў мошак (глядзі ніжэй).

Мошкі (*Aphididae*) — гэта невялікія авадзёнкі, ад 2 да 4 мм. даўжыні, з вельмі кволым целам. Выступаюць яны як формы крылатыя (з чатырма скуркавымі крылкамі) або зусім бяскрылыя. Размнажаньне іх можа адбывацца ня толькі пры помачы самцоў, каторыя найчасьцей зьяўляюцца ўвосені, але і так званым спосабам партэногенэтычным (parthenogenesis), гэта знача без апладненьня. Залежна ад гэтага саміцы складаюць яечкі, або выдаюць жывароднае патомства. Разьвіваюцца вельмі скора, так, што ў працягу аднаго лета выступае некалькі пакаленьняў. Мошкі, жывучы на розных расьлінах, высысаюць з іх сокі, што пры масавых паявах робіць вялікія зьнішчэньні сярод расьлін упраўных і дзеля таго належаць яны да найпаважнейшых аваднёў-шкоднікаў. З мошак падаю такія гатункі:

Яблынная мошка (*Aphis pomi* — De Geer) — гэта дробненькі, ясна — зялёны авадзёнак; высысае пучкі і маладыя лісточкі, каторыя пад уплывам таго ссаньня пачынаюць моршчыцца і скрочывацца, гэтым самым хаваючы цэлыя калёніі мошак ад ворагаў, вялікай сьпекі і т. п. Мошка гэтая ёсьць вельмі паважным шкоднікам, перад усім грозны ў школках маладых дрэвак яблыняў. Яечкі мошкі зімуюць на кончыках галінак.

Агрэставая мошка (*Aphis grossulariae*—Kalt) — зя-

лёнага колеру, з ясна-жоўтымі вусікамі і трубачкамі; у крылатых формаў грудзі чорныя, а брушка зялёнае. Выступае на кончыках галінкаў агрэсту і парэчак у V і VI*). Пад уплывам іх жыраваньня трончыкі лістоў скручываюцца, а лісты прыціскаюцца да галінак.

Сьліўная мошка (*Hyalopterus pruni—F.*) — гэта вельмі паважны шкоднік сьлівак. Ёсьць ён бруднага жоўта-зялёнага колеру, з цёмнай галоўкай; бывае прычынай скручваньня лістоў.

Вішнёвая мошка (*Myzus cerasi* — F.) — мошка гэтая выступае на маладых сьцяблох і лістох вішняў і чарэшняў. Колеру яна чорна-блішчучага, хоць летам некаторыя пакаленьні ня маюць свайго нармальнага колеру і тады астаюцца чорна-зялёнымі або чорна-бурымі. Вельмі грозны ў школках маладых дрэвак; лістоў ня скручывае.

Апрача пададзеных тутака гатункаў мошак, выступае ў нас яшчэ шмат іншых гатункаў спатыканых радзей.

*Способы змаганьня з мошкамі.*

1) Калі ўжо ўбачым, што лісты скручываюцца, ці заўважым якія іншыя прыметы бытнасьці мошак, або найлепш яшчэ перад гэтым, трэба абпырсківаць дрэва **табачным прэпаратам,** каторы прыгатаўляюць такім способам: 400 грам. найгоршай табакі (тытуну), як напрыклад махоркі на 12 літраў вады, гатаваць праз 6—8 гадзін, пасьля перацадзіць і дадаць 24 літры вады і 125 грам. шэрага мыла распушчанага ў гарачай вадзе. Гэтым адварам пры помачы абпырсківача трэба распыляць гэтую плыўкасьць на дрэва 3—4 разы, у перарывах па 7—10 дзён, зьвяртаючы галоўную ўвагу, каб добра абпырскаць споднія часьці лістоў і маладыя галінкі, дзе найбольш сядзяць мошкі.

2) Вясною шмараваць пні дрэў, а галіны абпырсківаць **вапенным малаком,** якое прыгатаўляюць та-

---

*) Рымскія цыфры заўсёды азначаюць месяцы.

кім спосабам: каб атрымаць 100 літраў гэтай плыўкасьці, трэба ўзяць каля 6 кілё чыстай добрай выпаленай вапны, усыпаць у які-небудзь кошык і ўсадзіць на момант ў ваду. Пасьля выбраны з вады кошык трэба накрыць мяшком, а калі ўжо вапна рассыпіцца на дробненькі парашок, у той-жа час дадаць да яго вады, разьмяшаць добра, перацадзіць: атрыманая жыжка — гатовая да ўжываньня.

3) Каб перашкодзіць паяўленьню шкоднікаў, ужываецца зімой або ў пачатку вясны, калі яшчэ пучкі не набрыняюць, так званая **карбольная мешаніна,** іначай — садоўніцкі карболінэум. Спосаб прыгатаваньня: распусьціць ў гарачай вадзе 200 грам. шэрага мыла і дадаўшы (паступова) 100 грам. неачышчанай карбольнай кісьлі, добра вымешаць і даліць да таго яшчэ 12 літраў вады. Ужываць у дзень пагодны, даволі цёплы і калі няма яшчэ на дрэве лістоў.

4) Летам, каб зьнішчыць мошкі ці іншыя авадні, трэба абкурыць сад **табачным дымам.** Раніцай або ўвечары, калі пагода ціхая, найлепш пасьля дожджу, трэба параскладаць кучкі саломы (каля 40 на ½ га саду), а на іх — тытуну (адпадкаў), на кожную кучку па 2 кілё, мяркуючы так, каб па падпаленьню гэтых кучак, выходзячы дым абняў цэлы сад і трымаўся там праз якія 2 гадзіны.

5) Увосені, калі ўжо лісты апалі, у цёплы і ясны дзень, або вясною, калі яшчэ няма набрыняўшых пучкоў — вельмі добра абпырскаць дрэва якіх 2—3 разы разчынай **сярчану жалеза.** Склад: на 12 літраў вады 1 кілё сярчану жалеза і 1 кілё вапны. Увага: калі ўжо пачынаюць распушчацца пучкі, то гэтай плыўкасьці ня можна ўжываць, бо можа пашкодзіць кволым часьцям расьлін.

6) Таксама добра нішчыць мошкі **мыльна-нафтавая мешаніна,** якую трэба гэтак прыгатаўляць: у 3 літрах гарачай вады распусьціць 100 грам. шэрага мыла, пасьля безперарыву мяшаючы ўліваць паступова 600 грам. нафты, мяшаць найменш 15 мінут, ізноў уліць

3 літры гарачай вады і яшчэ 12 літраў сьцюдзёнай вады. Атрыманую гэткім спосабам мешаніну распырсківаць можна толькі тады, калі яна ёсьць вымешаная і толькі да 6 гадзін па зробленьню. Дзень выбіраць ня вельмі цёплы.

б) Шчытковыя мошкі (*Coccina*) — жывуць найчасьцей на кары дрэў, пад абаронай шчыткоў. Лярвы іх, якія бываюць схаваныя пад шчыткамі няжывых саміцаў-матак, разлазяцца па цэлай расьліне, шукаючы добрага месца жыраваньня. У гэным часе яны безбаронныя, бо яшчэ непакрытыя шчыткамі і таму тады найлепш іх нішчыць. Пасьля яны некалькі разоў ськідаюць скуркі, а саміцы губяць ножкі і робяцца нярухомымі, акрываюцца шчыткамі і па аппладненьню самцамі кідаюць пад сябе яечкі і гінуць. Але самцы заўсёды рухавыя, а маючы да гэтага крылкі, могуць лёгка вышуківаць саміцаў. — Шчытковыя мошкі наколываюць кару і высысаюць з расьлін шмат сокаў, дзеля чаго дрэвы слабеюць і менш даюць пладоў, а асобныя галінкі і навет дрэўкі вельмі часта гінуць. Варта зазначыць два гатункі шчытковых мошак:

Яблынны чарвец (*Lepidoraphes ulmi* — L.) на яблынях, менш на іншых дрэвах распаўсюджаны. Шчыток саміц даходзіць да 3-х мм. даўжыні і мае форму пукатай коскі, найчасьцей бранзовага ці шэра-бранзовага колеру. Сам авадзень белаваты або жоўты,даўжыні 1мм.

Агрэставы чарвец (*Lecanium corni* — Bouche) мае шчыток паўкруглы. Паяўляецца на пладовых дрэвах, а так-жа на агрэстах, парэчках і малінах. Вельмі шкодны. — Спосабы змаганьня: падчас зімовага сну дрэў, падаслаўшы на зямлю мяшкі або посьцелкі, аскрабаць кару і абпырскаць дрэва садоўніцкім карболінэумам.

## Матылі (*Lepidaptera*)

Характэрныя асаблівасьці матылёў наступныя: поўная перамена хвормы: 1) яечка, 2) лярва, 3) пачварка і 4) сьпелая хворма (*imago*); ссучы губны апарат;

2 пары крылак, пакрытых кволай markdown рознакалёрнай луской, якая лёгка сьціраецца пры датыканьні. Лярвы матылёў завуцца вусеніцамі. Выраслыя матылі жывуць сокам кветак, а вусеніцы — лістамі або дрыўном. Шкодзяць звычайна ў стане вусеніцы.

Нішчацца шкодныя гатункі вусеніц падчас іх жыраваньня, звычайна абпырсківаньнем *парыжскай зеленяй**).

**Спосаб прыгатаваньня парыскай зелені.** Хочучы атрымаць 100 літраў атрутнай жыжкі, бярэцца адпаведная колькасьць парыжскай зелені (колькасьць падаецца далей) і робіцца з вадой рэдкая папка (цеста).

Асобна прыгатаўляецца вапеннае малако з чыстай, добрай, нягашанай вапны. Да гэтага перш працэджанага малака ўліваецца дробнымі часьцямі папка з парыжскай зелені, цэлы час мяшаецца, і гэтак атрымліваецца жыжка, каторай трэба абпырсківаць дрэвы, нападзеныя шкоднікамі.

Колькасьць зелені і вапны, якую трэба браць на 100 літраў вады, залежыць ад жывучасьці шкодніка, кволасьці самай расьліны, а так-жа і ад пагоды.

Звычайна абпырскуючы кволыя расьліны, бярэцца на 100 літраў плыўкасьці толькі 60 грамаў зелені і 450 грамаў вапны

для ігруш — 80 гр. зелені і 500 гр. вапны
„ яблыні —100 да 120 гр. зелені і 700 гр. вап.
„ вінаграду і паркавых дрэў — 150 да 200 гр. зелені і 1,000 гр. (кілё) вапны і г. д.

Вапна аслабляе сілу арсэнавай кісьлі, якая парыць расьліну.

Каб спраўдзіць, ці жыжка добрая, ці яна не замоцная, трэба на пару мінут акунуць у ёй чысты, сталёвы нож. Калі нож ня зьменіць колеру, дык жыжку гэтую можна ўжываць; калі-ж нож шчарнее, тады да

*) Парыжская зелень гэта парашок зялёнага колеру, складзены з аршэніку і медзі, дзеля чаго ёсьць ён сільнай атрутай.

жыжкі трэба дадаць яшчэ вапны і зрабіць пробу другі раз.

УВАГА: парыжская зелень зьяўляецца моцнай атрутай нятолькі для вусеніц, але і для самага чалавека; дзеля таго прыгатаўляць гэтую плыўкасьць трэба вельмі асьцярожна.

Іншыя спосабы барацьбы з вусеніцамі будуць пададзеныя пры паасобных гатунках шкоднікаў.

Шыпшыніца (*Aporiacrataegi*—L.) — складае яечкі на сподняй паверхні лістоў; вусеніцы жыруюць да восені, зімуючы пасьля ў скручаным лістку (у адным лісьце адна вусеніца!) у г. зв. „зімавых гнёздах." Збуджаныя вясною робяць далёка больш шкоды, зьядаючы маладыя лісты і пучкі.

Златагузка(*Euproctis chrysorrhoea*—L.)—жыцьцё падобнае да папярэдняга гатунку, вусеніцы зімуюць у скручаных лістох, злучаных з сабою павучыньнем.

*Спосабы барацьбы* з гэтымі двума гатункамі наступныя: 1) абпырсківаньне дрэў у часе жыраваньня вусеніц, гэта знача вясною і ў другой палавіне лета — парыжскай зеленяй; 2) зьбіраньне ўвосені або зімой „зімавых гнёздаў" і нішчэньне іх.

Абручніца (*Malacosoma neustria*—L.) складае яечкі на маладых галінках, робячы з яечак як-бы пярсьцёнкі. Вясною з гэтых яечак выклёўваюцца вусенічкі, каторыя жыруюць спачатку грамадамі, пасьля паасобна, аб'ядаючы лісты дрэў. *Змаганьне* з гэтым гатункам:

1) нішчэньне познаю восеняй або зімой яечак, абразаючы галінкі дрэў, на каторых пасклаланыя яечкі.

2) нішчэньне вясною гнёздаў з вусеніцамі (калі яны жыруюць грамадою)

3) страсаньне вусеніц на падасланыя пад дрэва посьцелкі

4) абпырсківаньне нападзеных дрэў парыжскай зеленяй.

**Шкоднік пядзямер** (*Cheimatobia brumata*—*L.*)— увосені самкі з недаразьвінутымі крыламі (няздольныя да лятаньня) выходзяць з пачварак схаваных у зямлі,

узлазяць на пладовыя дрэвы і складаюць яечкі на лусцэ пучкоў. З яечак вясною выклёўваюцца вусеніцы, якія нішчаць лісты і кветкавыя пучкі.

*Спосабы барацьбы* з гэтым гатункам такія:

1) закладаць у пачатку кастрычніка л і п к і я п а я с к і на пні дрэў. Паяскі гэтыя з васковай паперы прывязваюцца моцна да пня так, каб самка матыля не пралезла пад пояском. Леп размазываць у верхняй часьці паяскоў. З гатовых ліпкіх жыжак у прадажы найлепшы ёсьць „Lep sadowniczy" фірмы „Azot;"

2) пачваркі можна нішчыць пракапываючы пад дрэвамі ўвосені зямлю;

3) жыруючыя вусеніцы можна атруціць, абпырсківаючы дрэва парыжскай зеленяй.

**Зімчук лістаед** (*Hibernia defoliaria—L.*) — так-жа шкодны, выступаючы часта ў вялікіх колькасьцях. Спосаб жыцьця вельмі падобны да жыцьця гатунку папярэдняга, таксама і спосабы барацьбы; толькі ліпкія паяскі на яго трэба закладаць у другой палавіне верасьня.

П л а д о ў к а я б л ы ч н а я (*Laspeyresia pomonella—L.*)— выклікае г. зв. „чарвівасьць" пладоў— яблыкаў і йгруш. З зложаных летам яечак выклёўваюцца вусенічкі і ўгрызаюцца ў нутро пладоў яблынь і йгруш, робячы ў іх ходы. Вырасшыя вусеніцы робяць сабе у шчылінах кары белыя вопрадні, дзе і зімуюць.

*Спосабы барацьбы* з гэтымі двума гатункамі наступныя: 1) саскробываньне і паленьне каравіны з пнёў і сукоў дрэў перад вясною, 2) абпырсківаньне кароны дрэў парыжскай зеленяй, пасьля таго, як ападуць кветкавыя пялёсткі, 3) закладаньне п е р а в я с л а ў з с а л о м ы, калі ўжо пачнуць ападаць першыя рабачлівыя яблыкі ці йгрушкі. Выбіраць пасьля з перавяслаў вусеніцы робячыя вопрадні, і нішчыць.

Я б л ы н н а я м о л ь, (*Hyponomeuta malinella — Zell*)—распаўсюджаны шкоднік у нашых садох. У жніўні выклёўваюцца з зложаных яечак вусенічкі, каторыя пасьля перазімаваньня точаць лісты і іх згрызаюць. Жыруючы разам твораць павучынныя гнёзды з рась-

цягненых нітачак паміж лістамі, дзе яны і перавяртаюцца ў пачваркі.

*Нішчэньне:* 1) абразаць і паліць галінкі з гнёздамі, 2) абпырсківаць дрэвы моцнай струёй парыжскай зелені ў часе жыраваньня (1 грам зелені і 5 грамаў вапны на 1 літр вады).

**Калечнік ліставы** (*Simaethis pariana—Clerck)* вусеніцы робяць часам вельмі паважныя шкоды на маладых яблынях, бо калечаць лісты, выядаючы з іх зялёныя часткі.

*Барацьба:* 1) абпырсківаньне дрэваў парыжскай зеленяй у пачатках траўня і ў пачатках ліпня, 2) страсаньне вусеніц з дрэваў у часе іх жыраваньня, закладаючы ў гэтым-жа часе на пні дрэў ліпкія паяскі. Апаўшыя вусеніцы, хочачы ўзьлезьці ўзноў на дрэва, будуць ліпнуць да паяскоў і гінуць.

## Жукі *(Coleoptera)*.

Жукі маюць дзьве пары крылак. Губны апарат прыгодны да грызеньня і жуцьця. Поўная перамена. Характэрнай іх асаблівасьцяй ёсьць тое, што маюць цьвёрдыя крылкі пакрывы (хітыновыя), каторыя ня служаць ім да лётаньня, але ахраняюць другую пару крылак балонкавых, пры помачы каторых лётаюць жукі. З іх вельмі шкоднымі ў нас у садох зьяўляюцца:

Яблынны даўганосік (*Authonomus pomorum—L.*) вельмі распаўсюджаны, адзін з найгразьнейшых шкоднікаў яблыні. Зімуе ён звычайна ў шчэлінах кары дрэваў. Вясною самка складае яечкі ў пучкі яблыні, радзей — ігруш. Лярвы, выклюнуўшыся, зьядаюць завязкі пучкоў, а пасьля перавяртаюцца тамака ў пачваркі. Выраслы жучок жывіцца лістамі яблыні.

*Барацьба:* 1) перад разьвіцьцём зімовых пучкоў, рана або ў пахмурныя дні, абтрасаць дрэва над разасланымі на зямлі посьцелкамі. Апаўшыя жукі—нішчыць, 2) абпырсківаць дрэва вясною або ўвосені вапен-

ным малаком,) 3) у другой палавіне лета закладаць на дрэва перавёслы з саломы, паперы і г. п.

Маёвы хрушч (*Melolontha melolontha — L.*)— нішчыць, будучы лярвай, карэньні пладовых дрэваў, а як вырасьлы авадзень — аб'ядае лісьцё.

Бліжэй аб яго шкодах і спосабах змаганьня напісана ў маёй кніжцы „Majovy chrušč i sposaby baraćby z im," Vilnia 1935 h. і туды адсылаю чытачоў.

Шмат яшчэ ёсьць шкоднікаў і то ня толькі з авадзінага сьвету, але і з іншых грамад зьвяроў, як шмат ёсьць і хваробаў распаўсюджаных у нашых садох і іншых расьлінных культурах. Шмат заняло-б месца адно толькі іх вылічэньне, ня кажучы ўжо аб іх апісаньні і падаваньні спосабаў барацьбы. Дзеля таго мы агранічыліся пакульшто да паданьня толькі найбольш важных гатункаў і то толькі шкодных у садаводзтве.

**Мікалай Караленка.**

---

# Якія дрэўцы садзіць у садку?

Найлепшымі гандлёвымі сартамі яблыні для нашага краю ёсьць: Антонаўка, Бержэніцкі Ананас, Ліфляндзкі Графэнштэйн, Струмілаўка (Мордэр), Літоўская Пэпінка, Літоўская Цукроўка (салодкая) і Папяроўка (Белы Балтыцкі Наліў). Тры апошнія сарты: – Літоўскую Пэпінку, Цукроўку і Папяраўку, у садох далёкіх ад гарадоў, казармаў і вялікіх фабрык ня варта шмат садзіць, бо на месцы іх тады трудна збыць, а дальшых перавозаў гэтыя сарты баяцца, бо лёгка абіваюцца. Але, калі хто ўмее добра апаковываць свой экспортны тавар, дык той і гэтыя сарты яблык можа сьмела садзіць.

Хто закладае садок не на прадажу, а для сябе, той апрача вышэйназваных мусіць пасадзіць у сябе йшчэ Каробаўку (Летнюю Рэнэту), Баровінку і Літоўскую Малінаўку.

Як мусяць выглядаць дрэўцы выбраныя да пасадкі?

Дрэўца да пасадкі мусіць быць бязумоўна здаровае. Мусіць яно быць зашчэплена на нашай лясной дзічцы (malus prunifolia). Дзічок ужыты пад шчапленьне мусіць быць абавязкава пікаваны і мець добрае карэньне.

Пень дрэўца павінен быць таўсты, моцны, просты, із здаровай, бяз моху і бяз цьвёрдай, старой, як бляха сівой кары. Антонаўка, Графэнштэйн і Пэпіна Літоўская пень маюць ў большасьці выпадкаў крываваты, але яго можна лёгка выпрастаць, прывязаўшы да калка. Затое Ананас Бержэніцкі, Папяроўка, Струмілаўка, Цітаўка, Баравінка, Цукроўка Літоўская і Каро-

баўка (летняя Рэнэтка) заўсяды бываюць простыя, рэдка калі здараюцца крываватымі.

Карона павінна быць правідловая, ня густая і не аднабокая. Правідловая карона мае пяць бакавых сучкоў і адзін шосты ўверх — правадніk. Калі карона загушчаная, дык трэба яе прарэдзіць. Але хто гэтага сам ня ўмее рабіць, дык хай запытае ў умеючага, каб не папсаваць карону. Можа быць так-жа добрай карона з трох правідлова распаложаных па бакох сучкоў і аднага правадніка ўверх.

Заграніцай (Амэрыка і Саветы) гадуюць дрэўцы з каронамі ўжо не такімі, а так званымі „лідэрнымі.“ У нас-жа аб „лідэрных“ каронах мала хто знае. Калі які пітомнік (школка) цяпер і выгадаваў-бы дрэўцы з такімі каронамі, дык мала іх прадаў-бы.

Сучкі ў кароне мусяць быць здаровенькія, чысьценькія ад яечак травяной тлі і мець добры прырост.

Найлепшы век да саджэньня дрэўцаў: двух і трох гадовыя, не старэйшыя.

Вышыня дрэўцаў для садкоў неабгароджаных найлепшая ад 100 да 120 сантымэтраў, для садкоў абгароджаных — 80—110 сантымэтраў.

Набываць шчапы трэба толькі з тых пітомнікаў, якія самі гадуюць дзічкі для яблынь з праўдзівай лясной яблыні (pirus malus silvestris) ці пруніфоліі (malus prunifolia). Тыя-ж пітомнікі (школкі), якія купляюць гатовыя дзічкі, найчасьцей маюць дзічкі з насеньня садовага далікатных сартоў і дрэўцы зашчэпленыя на такіх падкладках лёгка паддаюцца розным хваробам або вымярзаюць. Хто мае доступ да дзічак, дык той няхай восеньню зьбірае сьпелыя плады лясной здаровай яблыні і йгрушы, вылушчывае з іх зярняты, ссыпае ў палатняныя мяшочкі і перахоўвуе іх у праветраным і немарозным месцы.

Садзіць дрэвы найлепш у квадрат, адно ад другога ня далей як 10 (дзесяць) мэтраў.

На аслону садоў проці вятроў і марозу найлепей ужываць з паўночнага боку ёлку, а з усіх другіх ба-

коў — ляшчыну, вішню, жоўтую сьліву з адросткаў карэньня.

Ігрушы, калі іх наагул садзіць, дык трэба памяшчаць іх з паўночнага боку. Гэта таму, што йгрушы высака растуць і калі іх пасадзіць з другіх бакоў, дык будуць заценіваць яблыні.

Пры канцы хачу дадаць, што ўдачы ў садоўніцтве дачакаецца толькі той, хто працу сваю любіць і хто не спадзяецца на тое, што праца сама сабой зробіцца.

**Іван Сікора.**

# Сад трэба таксама гнаіць

Аж прыкра прыпамінаць аб тым, што большасьць нашых уласьнікаў пладовых дрэваў бачыць гэтыя апошнія тады толькі, як на іх пакажыцца больш ці менш пладоў: яблыкаў, ігрушак і г. д. Ня хочуць аднак людзі зразумець, што плады гэтыя з нічога ня могуць завязацца, а тым больш дасьпець. Дзеля таго, каб ураджай у садку быў кожны год пэўным, трэба пладовыя дрэвы рэгулярна і што год гнаіць.

Угнаеньне — ня толькі саду, але і ўсякае іншае— мае за заданьне „падкарміць“ глебу чатырмя аснаўнымі сучасткамі, кожная з каторых мае сваё асобнае празначэньне. Гэтыя сучасткі наступныя: *азот, фосфар, паташ і вапна.* Азот (N) падганяе перадусім рост самой расьліны ці дрэва. Надбытак азоту вызначаецца цёмназялёнай ахвербоўкай лісьця, а пладовае дрэва даўжэй расьце, не даючы пладоў. Фосфар (P), у процiўвагу азоту, змушае быццам дрэва выдаваць плады, пладзіць. Паташ (K) умацоўвае самое дрэва (расьліну), гартуе яго прад марозам, а пладом надае прыгажэйшы выгляд і адпаведны пладовы пах. Чым лягчэйшая зямля, тым бяднейшая бывае на паташ. Урэшце вапна (Ca) патрэба ўсякай расьліне ня гэтулькі можа як прадукт спажыўны, колькі як спасаб адпаведна прыгатаўляючы глебу (нэўтралізуе квасовасьць глебы, папраўляе ейную будову і г. д.).

Усе гэтыя сучасткі раз у большай, іншы раз у меншай меры знаходзяцца ў добра перагніўшым хляўным гнаі, або ў сьпелым кампосьце. Дзеля таго рэгулярнае

гнаеньне гэтымі гнаямі блізу поўнасьцю здавольвае гнойныя запатрэбаваньні расьліны.

Як само гнаеньне праводзіць? — Дрэва ўбірае ў сябе сілу пераважна пры помачы канцавых частак сваіх карэньняў. Дзеля таго і гною пад дрэва ня можна абкладаць цесна каля пня, але па акруглай лініі кароны (проці сукоў). Мала таго. Карэньні дрэва знаходзяцца глыбака пад зямлёю, дык і гной трэба класьці не наверх зямлі, а закапываць яго глыбей. Практычна гэта робіцца або пры помачы раўкоў кругом дрэва па лініі кароны, ці асобных ямак. Раўкі такія робяцца ўглыбку на 50 - 70 сантымэтраў (асьцярожна, каб не параніць карэньняў,) у іх кладзецца гной (але ня сьвежы), або сьпелы кампост і прыкрываецца зямлёй. Калі дрэвы пасаджаны радамі, дык равы капаюцца ня круглыя, а простыя і накрыж паміж дрэвамі. Вынік тойсамы: дрэва абкружана будзе ровам з 4-ох бакоў, а равы такія лягчэй выкапаць, бо да гэтага можна ўжыць глыбокай воркі канём.

Вельмі цэнная так-жа пад пладовыя дрэвы гнойная жыжка, або самая мача, ці ўрэшце разьведзены папалам з вадой чалавечы гной (прад тым перасыпаны сухой пакрышанай тарпавіной). Гэткую жыжку найлепш заліваць у загадзя выбраныя ямкі двойчы: раз — прад распусканьнем лістоў і другі — пасьля адцьвітаньня.

Попел з дрэва замяняе штучныя ўгнаеньні паташовыя: закапываецца ў ямкі ці барозны.

Там аднак, дзе гэтых натуральных гнаёў не хапае, там трэба ўжыць гнаёў гэтак званых штучных, з каторых кожны мае ў сабе з пералічаных пераважна адзін толькі гнойны складнік. Гнаеньне саду штучнымі гнаямі аплачываецца нават сягоньня. Толькі застасаваньне гэтых гнаёў ня так простае: даючы адзін з іх, трэба даваць і іншыя, бо йнакш можна напр. празмерным гнаеньнем азотнымі гнаямі спазьніць пладаноснасьць дрэва і аслабіць яго адпорнасьць проціў марозу, або фосфарнымі—занадта гэту пладаноснасьць прысьпяшыць і г. д.

Што датыча застасаваньня ў садзе гнаёў штучных, дык спаміж розных прабаваных мяшанак найпрасьцейшай здаецца быць настуная: па 4 кілё супэфосфату (вясной), або тамасоўкі (ўвосені) і 40 прац. паташавай солі—на кожныя 100 квадр. мэтраў сярэдне ўзросшага саду. Гнаі гэтыя з сабой перамешваюцца, зараз-жа засяваюцца і прыкрываюцца (лапатай, або плугам). Калі дрэва расьце слаба, дык патрэбна яму таксама і ўгнаеньне азотам: даецца йшчэ 4 кілё чылійскай салетры, азотняку ці якога іншага азотнага ўгнаеньня. Толькі салетру ня можна глыбака прыкрываць.

Другой асаблівасьцяй салетры ёсьць тое, што даваць яе трэба толькі вясной і раньнім летам, калі дрэвы пакрыты лісьцём. Улетку (ад м-ца ліпня) гнаеньне азотнымі штучнымі навозамі трэба ўстрымаць, бо гэта без патрэбы ўзмацняе толькі рост дрэва і спазьняе ягоную пладаноснасьць; гнаеньне-ж азотам увосені падстаўляе дрэва пад небясьпеку вымярзаньня. Але васеньняе гнаеньне дрэваў гнаямі фосфарнымі і паташовымі вельмі карысна.

Пад дрэва з пладамі кастковымі (сьлівы, вішні, чарэшні) трэба дадаваць вапны разлёсаванай на парашок, лічачы па 300 грамаў на 1 кв. мэтр.

**В. Р.**

# Дагляд ураджаю

## Здыйманьне і перахоўваньне пладоў

Перацьвіцеўшыя дрэвы ўступаюць у новую пару свайго жыцьця — у пару завязываньня і дасьпяваньня самых пладоў. Калі было шмат цьвету і ён добра апыліўся, не пашкодзіў мароз, дык можна спадзявацца добрага ўраджаю. Але гэты якраз д о б р ы ўраджай часам ня выходзе дрэву на здароўе, бо занадта вычэрпывае ягоную сілу і перашкаджае, ці лепш сказаць— не пазваляе насаджваць завязі на наступны год. І дзеля гэтага звычайна ўжо так бывае, што пасьля году багатага ў садзе наступае год бедны.

Каб гэткіх „бедных“ гадоў ня было, а прынамся каб яны здараліся як можна радзей, уласьнікі больш цэнных садоў стасуюць выбарку пладоў яшчэ на дрэве; інакш кажучы, яны асьцярожна прад дасьпяваньнем зрываюць часьць пладоў з тых мясцоў, дзе яны вырасьлі надта густа, адзін пры другім. Такая выбарка пазваляе тым пладом, што на дрэве асталіся, нармальна разьвіцца, а дрэва захоўвае пладаносную сілу на год наступны. Час выбаркі наступае тады, калі плады вырастуць да $^1/_5$ сваей вялічыні нармальнай.

Гэткую выбарку ведамы садавод праф. Грэбніцкі называе *нармаваньнем* ураджаю і радзіць стасаваць яе толькі да сартоў цэнных.

З вялікім націскам трэба так-жа ўспомніць аб канешнасьці штодзеннага (а лепш яшчэ два разы на дзень!) падбіраньня ў садку розных ападкаў. Патрэбна гэта: раз дзеля таго, што яны перабраныя, сьпелыя,

ачышчаныя могуць быць добрым матар'ялам для вырабу розных яблычных вінаў, квасаў ці нават і мармаладаў. А далей, усе такія ападкі гэта-ж магазыны ўсякіх рабакоў і наагул садовых шкоднікаў. І калі такія яблыкі праляжаць на зямлі нейкі час, дык рабакі з іх павылазяць на зямлю, а пасьля па дрэве ўзноў дастануцца да пладоў новых, у каторых нанова пачнуць сваю шкодную работу.

Само дрэва абладаванае добрым ураджаем патрабуе так-жа дагляду ў сэнсе падтрыманьня абладаваных пладамі сукоў. Датыча гэта галоўным чынам яблыні, але часта спатыкаецца і ў ігрушаў, сьліваў а нярaз і ў вішняў ды іншых дрэваў. Само падтрыманьне выконваецца або падвязываньнем або падпіраньнем. Падвязваньне стасуецца галоўным чынам сукоў з тэй ці іншай прычыны трудна даступных да падпіраньня зьнізу. Пераладаваны пладамі сук прывязваецца саламяным перавеслам, канапляным ці лыкавым да верхняга грубейшага сука або да самага пня. Уважаць пры гэтым трэба, каб прывязваньнем не пашкодзіць кару дрэва. Таму ў месцы сутычнасьці перавязкі з дрэвам трэба ўкладаць нешта мяккае: жменя сена, саломы ці хоць-бы нават якую анучку. Памятаць аднак трэба, што й гэткае забясьпечаньне, калі яго бяз зьмены доўга трымаць на адным месцы, дык яно нярaз бывае прычынай адпарваньня кары ды зьбіраньня й загнежджываньня ўсякіх шкоднікаў Гэта апошняе можна аднак выкарыстаць і на тое, каб сабраных там шкоднікаў за адзін раз зьнішчыць. Даволі дзеля гэтага самую падкладку час ад часу мяняць і нішчыць. Разам з ей заўсяды зьнішчацца і асеўшыя там шкоднікі.

Значна часьцей здараецца патрэба падпіраньня абцяжаных пладамі сукоў. Як і калі гэта рабіць — нікому хіба ня ёсьць сакрэтам. Аб захаваньні цэласьці кары самага дрэва трэба памятаць тое самае, што і пры падвязываньні гэткіх-жа сукоў.

Урэшце справа самага здыйманьня і перахаваньня пладоў. Тут з рознымі пладамі розна трэба пасту-

паць. З канешнасьці спынімся тут коратка на йгрушках і на яблыках.

Агульнае для іх правіла: летнія (раньнія) сарты здыймаць прынамся за тыдзень перад аканчальным дасьпяваньнем. Плады летнія, пратрыманыя на дрэве да самай сьпеласьці, трацяць на сваім смаку; замест быць сачыстымі, становяцца сыпкімі, даўкімі.—Інакш з сартамі познымі, восеньскімі і асабліва зімавымі. Гэтыя апошнія асабліва трэба пратрымаць на дрэве як толькі можна даўжэй: ад гэтага залежыць іхні выгляд, смак, ну — і цана, што для ўласьніка гандлёвага саду ёсьць найважнейшым. Натуральна, ня можна гэтак дачакацца маразоў.

Дальшым важным правілам, якое канешна трэба захоўваць, гэта на перахоўваньне, хоць-бы й нядоўгае, браць толькі плады (фрукты) зьнятыя з дрэва проста рукой ці пры помачы адумысных шчыпцоў (відэльцаў), прымацаваных на доўгіх шастох. Ні ў якім выпадку ня можна на перахаваньне браць пладоў страсаных з дрэва ці такіх, якія апалі з дрэва самі. Гэткія (страсаныя і апаўшыя) плады абіваюцца, а абабітыя мясцы хутка чарнеюць, псуюцца. А ведама, што ад аднаго папсутага яблыка, калі ў час не агледзіцца, можа папсавацца ўвесь запас.

Акрамя таго страсаньне пладоў мае йшчэ іншыя непажаданыя, калі не казаць што проста недапусьцімыя і шкодныя насьледкі: яно калечыць само дрэва, абрываючы ці хоць-бы толькі калечачы гэтак званую пладовую матку, з каторай вырастае плод. Гэтым няведамкі і мімаволі чалавек нішча зародкі ўраджаю на год наступны. — Калі мова аб пладовай матцы, дык зазначма, што пад словам гэтым трэба разумець канец галінкі, з каторага вырастае чарончык самага плада — ігрушкі, яблыка й інш. Цэласьць пладовай маткі на колькі важная для насаджваньня пладоў, на толькі, і чуткая на пакалечаньне; на гэтулькі чуткая, што нават пры безпасярэдным здыйманьні рукой можна яе таксама пакалечыць, калі неадпаведна ўзяцца. Таму

і дзеля ручнога здыйманьня пладоў патрэбна практыка, тымбольш, што і чаранок (хвосьцік) зрыванай ігрушкі ці яблыка павінен быць так-жа цэлым, калі плод мае быць поўнацэнным рынычным таварам. Дзеля гэтага пры здыйманьні пладоў рукой сам плод лёгка хапаем у далонь і, пасуваючы паказальным (другім) пальцам на чаранку да сучка (да пладовай маткі), ашчупываем тое месца, дзе гэты чаранок вырастае з маткі: націскаючы у гэтым месцы пальцам, сам плод падыймаецца ўверх і, калі гэтага йшчэ мала, дык скручваецца ўбок. Чаранок гэтак лёгка адрываецца ад маткі, зусім ня псуючы ані яе, ані будучых завязяў, якія ў ёй знаходзяцца. На пачатак гэта вымагае крыху стараньня і ўвагі, але пасьля йдзе вельмі складна й хутка.

Пры найлепшай аднак волі ня можна ўсіх пладоў зьняць рукой проста з зямлі, нават калі-б у садзе былі самыя толькі карлаватыя дрэўцы. Патрэбныя да гэтага йшчэ тыя ці іншыя памоцныя прылады, як драбіны, шчыпцы, нажніцы, ну і — кошыкі.

Драбіны ў садку патрэбныя ня звычайныя дзеля прыстаўляньня да дрэва — бо тут няма аб што іх абаперці, а ў найлепшым выпадку такая простая драбіна можа па суку пасьлізнуцца і дрэва, а нават і самога чалавека небясьпечна параніць. Таму ў кожным садзе мусіць быць пераносная драбіна з складанай падпоркай, — такая, якую апрача садоўнікаў ужываюць яшчэ маляры, усякія монтэры, тынкаўшчыкі і інш. На гэткай драбіне можна бяз труду далезьці да ўсіх сукоў на дрэве, і то ня толькі каб раз у год зьняць з іх ураджай, але і каб само дрэва да пладаноснасьці прыгатаваць: прарэдзіць сукі густыя, ачысьціць на іх кару, сабраць усякіх шкоднікаў, пабяліць, словам—дагледзіць. У кожным большым — свая собская, а ў меншым — на супалку з суседам такая драбіна мусіць канешна быць! Тым-больш, што кожны садавод можа лёгка сам яе зрабіць.

Аб шчыпцах дзеля зрываньня пладоў мова ўжо была. Дадайма тут, што існуюць такія шчыпцы вельмі

markdown
markdown
markdown
markdown
markdown
markdown
markdown
markdown
markdown
markdown
markdown
markdown
markdown
markdown
markdown
markdown
рознавідныя і таму розна іх трэба і ўжываць. Правілам аднак блізу сталым ёсьць захапіць гэтымі шчыпцамі за чаранок ігрушкі ці іншага плоду, прыпадняць яго ўверх і пакруціць убок.—Пры адных шчыпцах трэба за кожным разам па сарваньні плоду зараз-жа яго здыймаць, каб апаражніць месца для плада наступнага.



**Шчыпцы да здыйманьня пладоў з дрэва:**
налева — шчыпцы з падвешаным мяшэчкам,
направа — шчыпчы адзіночныя.

Спосаб працы з гэткімі шчыпцамі, пэўнаж, вельмі марудны, і таму далёка хутчэй працуецца з шчыпцамі, якія маюць падважаны невялічкі кошычак ці мяшэчак, у каторы сарваныя плады зараз-жа самі ападаюць, зусім пры гэтым не абіваючыся.

Недацэненай агулам, хоць тым ня менш вельмі важнай снасьцю пры здыйманьні садовых пладоў зьяўляецца сам кошык, з якім абіральнік пладоў — звычайна малады хлапец — узлазіць на драбіну. Вот-жа гэты кошык тым важны, што ў ім, калі яго адпаведна не прыгатаваць, дык труцца й калечацца найлепшыя плады. Таму такі кошык (ці карзінка) павінен: 1. мець добрую зачэпку за драбіну, на каторай бясьпечна і ві-

сеў-бы, а сам абіральнік каб абедзьве рукі меў вольныя; 2. усярэдзіне-ж такі кошык павінен быць высьцеляны нечым мяккім, каб не абдзёр ці не параніў сьвежа-зложаных пладоў.

Лішнім хіба было-б дадаваць, што да здыйманьня пладоў, якія маюць быць перахоўваны, ня можна прыступаць ані ў дажджлівую пагоду, ані нават пры неабсохшай расе: да гэтай працы можна прыступаць толькі пры сухой сонешнай пагодзе.

Так ці гэтак зьнятыя з дрэва плады трэба адпаведна прымясьціць. Тыя з пладоў, што празначаюцца на хуткае і безадкладнае спажыцьцё, адкладаюцца асобна ад тых, якія празначаны на перахаваньне даўжэйшае. Таму першай работай каля зьнятых пладоў ёсьць іхняе разсартаваньне. Калі плады (яблыкі, ігрушы) ссыпаны на аднэй вялікай кучы, дык здыймаць да перабіраньня трэба зьверху, а не з бакоў; у праціўным выпадку ствараецца „падкоп," плады сыплюцца зверху ўніз і абіваюцца. — На доўгае перахоўваньне адбіраюцца толькі плады зусім цэлыя і здаровыя, нерабачлівыя і непаплямленыя. Уся рэшта павінна быць спажыта хутчэй. —

Урэшце справа укладаньня перабраных ужо пладоў на зіму. Трудна ў гаспадарскіх варунках вымагаць адумысловых складаў на гэтыя плады. Тым ня менш аднак пры добрай волі можна і тут знайсьці нейкую бакоўку, дакладна яе прад тым вычысьціўшы. Самыя плады пры гэтым найлепш раскладаць на паліцах, падасланых чыстай (недрукаванай, анізапісанай) паперай. Паліцы такія павінны быць ня шырэйшыя 60 см., каб магчы рукой дастаць кожны яблык, ці ігрушку, правераючы ці не пачалі можа псавацца. Калі хто мае такіх пладоў да перахаваньня больш і паліцаў пры сьценах яму за мала, дык можна тады паставіць простыя рыштаваньні пасярэдзіне, з пераложанымі паліцамі. Рахуючы, што да гэткай паліцы будзе вольны доступ з двух бакоў, шырыня ейная можа быць так-жа падвойная, гэта знача 1 м. 20 см. — Што да самага па-

машчэньня, у якім маюць перахоўвацца плады, дык трэба каб было яно сухім і каб у ім панавала сталая тэмпэратура: ня ніжэй + 1 і ня вышэй +6°Ц. Тэмпэратуру рэгуляваць можна толькі адчыняньнем і замыканьнем вакон. Пры гэтым зразу па злажэньні пладоў у такі склад, пакуль плады „пацеюць,“ трэба акно трымаць стала адчыненым, прымыкаючы яго ступянёва, калі набліжаюцца маразы. — Сьвятла зложаныя плады не баяцца, але калі-б яно падала беспасярэдна, дык лепш будзе, калі акно на час нечым прыслоніцца.

А. К.

# Выраб яблычнага віна

На выраб яблычнага віна выбіраюцца сарты кіслых (вінных) яблыкаў. Найлепш аднак ужываць да гэтага мешаніны: на кожныя дзьве часьці кіслых яблыкаў — адну часьць салодкіх. Позныя яблыкі даюць віна больш трывалкае ад віна з яблыкаў раньніх. Самы выраб яблычнага віна складаецца з: 1 прыгатаваньня мошчу, 2. квашэньня мошчу і 3. дасьпяваньня.

Яблычны мошч гэта звычайны сок выцісьнены з яблыкаў. Дзеля гэтага яблыкі перабіраюцца і мыюцца. Усякія чэрваточыны і надгніўшыя мясцы з яблыка вырэзываюцца, але абіраць само яблыка, а таксама выбіраць з яго зярняты загадзя ня трэба: гэта зробіцца пасьля. З прыгатаваных гэтак яблыкаў выціскаецца сок пры помачы адумысловага лісу (прэсу), або гэтыя яблыкі таўкуцца ў чыстай судзіне. Сьцерагчыся пры гэтым трэба, каб ані яблыкі, ані тымбольш яблычны мошч ня стыкаўся нігдзе з жалезам, ці чыгуном: у праціўным разе віно будзе мець жалязісты смак і колер ягоны будзе чорны.

Так ці йнакш прыгатаваную яблычную кашу ня трэба зразу выжымаць (лісаваць): пры тэмпэратуры 17°Ц (звычайная хатняя тэмпэратура) выжыманьне можна пачаць толькі за 12 гадзін, а пры тэмпэратуры мен-

шай як 17°Ц — за 24—48 гадзін (1—2 дні). Пасьля гэтага яблычная каша лісуецца (выжымаецца), а дзе няма лісу, там гэта каша накладаецца ў чысты парцяны мяшок і на чыстай габляванай дошцы кладзецца пад другую такую-ж дошку, націсьненую каменям, як гэта робіцца ў нас пры вырабе сыру. Гэтым самым адзяляюцца з яблычнай кашы і зярняты. Успомненыя дошкі, як і ўся пасуда на яблычны мошч і віна мусяць быць абавязкава толькі з лістовага дрэва (дуб, бук, ліпа).

Гэтак атрыманы сок (мошч) трэба квасіць. Прад тым аднак на кожны літр мошчу з кіслых яблыкаў дадаецца паўлітра пераваранай вады і 20 дкгр. (паўфунта) цукру, а пры мошчу з сярэдне-салодкіх яблыкаў — чверць літра пераваранай вады і 15 дкгр. цукру (на 7 літраў мошчу — 1 кгр. цукру).

Квасіцца віно найлепш у вялікіх (10-ці літровых і большых) шкляных бутлях, або ў дубовых ці буковых бачонках. Бачонкі трэба прад тым добра выпарыць, вышараваць і выкурыць серкай. Кусок парцянкі намачываецца ў серку, надзяецца на дрот і апушчаны ў сярэдзіну бачонкі спаліваецца; але датыкацца самой бочкі ня сьмее! Пасьля гэтага бачонак затыкаецца коркам на 1 гадзіну і ён—выветраны—ужо прыгатаваны да ўжытку. — Квашэньне віна бывае або самароднае, або ў мошч дадаюцца сумысьля *вінныя* дрожджы: яны распускаюцца ў 1—2 літрах пераваранага мошчу, ставяцца ў цёплае месца і як зашумуюць—уліваюцца ў рэшту мошчу, прад тым ўжо ўлітага ў бутлю ці бачонак. Запраўлены гэтак мошч затыкаецца г. зв. „квашэльным коркам,“ які не дапускае нічога ў сярэдзіну бутлі, але праз які можа выхадзіць з сярэдзіны вуглякіслы газ ($CO_2$), што вытвараецца пры квашэньні мошчу. Трэба пры гэтым уважаць, каб бутля была ўсьцяж поўная і даліваць яе салоджанай пераваранай вадой. У праціўным разе паўстае ацтовае квашэньне, якое псуе віно беспаваротна. Квашэньне віна адбываецца роўнамерна пры сталай і немяняючайся тэмпэратуры, найлепш пры 10-14°Ц. За 3-4 дні дрожджы так раз-

множацца і гэтулькі выдзяляюць газу, што ў сярэдзіне бутлі паўстае шум: гэта „бурлівае квашэньне,“ якое трывае 2—3 і больш тыдні.

Пасьля гэтага дрожджы ападаюць на дно і віно праясьняецца, счышчаецца. За 2—3 тыдні пасьля „бурлівага квашэньня“ счысьціўшаеся віно сьцягуецца ў іншую судзіну пры помачы гумовай руркі, адзін канец якой апускаецца ў судзіну з заквашаным мошчам так глыбака, каб сягаў найглыбшага празрыстага слою віна, ту-ж над зьлёгшай мулой (дражджамі), а другі — выходзіць з горла бутлі і зьвісае значна ніжэй, чымся дно самай бутлі. Гэты апошні канец руркі бярэцца ў зубы і высысаецца з яе паветра. Разам з гэтым паліецца праз яе і віно, якое будзе сьцякаць у падстаўленую судзіну (бутлю ці бачонак). Замест у бутлю ці бачонак можна сьцягіваць віно гэтак проста ў паасобныя бутэлькі, якія пасьля наглуха закарковываюцца, заліваюцца воскам, ці лякам і складаюцца ў склепе ляжма ў пясок. Робіцца гэтак пры вырабе віна для хатняга ўжытку. Лепш аднак давясьці працу да канца і прад разьліваньнем у бутэлькі, дакваш ываць віно ў вялікіх бачонках, ці бутлях, з захаваньнем усіх вымогаў: тэмпэратура ня вышэйшая 10—14°C, поўная судзіна і „квашэльны корак.“

Віно пасьпявае цалком да ўжытку не раней аднаго году: за гэты толькі час яно пасьпявае цалком вытварыць адпаведны смак, аромат (пахучасьць) і стацца іскрыста-празрыстым. Аб такім віне кажуць, што „мае добрую іскру.“ Інж. А. К.

# Безалькагольныя напіткі на рабочы час.

Чыстая вада гасіць смагу толькі на кароткі час. Дамешкі да вады, прыгатаваныя хвабрычным спосабам, бываюць дарагія; а танейшыя дамешкі шкодны для здароўя. Трэба дзеля таго пашукаць такіх напіткаў і дамешак, якія былі б здаровымі, а прынамся ня шкоднымі для здароў'я і прыступнымі па сваёй цане. Яшчэ лепш будзе, калі напіткі гэткія навучымся рабіць у сваей собскай гаспадарцы. Матар'ялам да гэтага могуць быць: жытні разовы хлеб, садовыя ападкі, ігрушкі-дзічкі, чорныя парэчкі і ўрэшце рабарбар. Разгледзім іх коратка і папарадку.

Добры **хлебны квас** можна прыгатаваць гэтак: 2 кілёграмы разовага хлеба рэжуцца спачатку на тонкія ськівачкі, якія пасьля разразаюцца накрыж, атрыманыя гэтак дробныя „косткі" („кубікі") хлеба моцна сушацца, аж „румянящца" і пасьля таўкуцца на парашок, ссыпаюцца ў чыстую судзіну, напр. у вядзерца і заліваюцца кіпячай вадой (каля 15 літраў, або 4 гарцы). Калі залітая вада крыху прыстыне, дадаецца да яе паўтары шклянкі цукру і 3 дэка (30 грам) добрых сьвежых дрожджаў. Гэтак рашчынены квас ставіцца ў цяпле. Праз 12 гадзін мешаніна пачынае бушаваць, а на версе творацца шумавіны (кажух), каторыя трэба асьцярожна зьбіраць.

Калі бушаваньне кончыцца, нясьпелы квас разьліваюць у чыстыя высушаныя бутэлькі, у каторыя прад тым укідваюцца па тры вымытыя разынкі. Напоўненыя

бутэлькі закаркоўвуюць, а каб газы гэтага корку ня выперлі, яго прывязваюць шнурком ці дротам. Самыя бутэлькі тады выносяцца ў месца сьцюдзёнае (склеп, варыўня) і кладуцца ляжма. Квас дасьпявае па 3—4 днёх. За гадзіну — дзьве прад піцьцём такі квас ставіцца на лёд. Калі ляцоўні ў гаспадарцы няма, тады бутэлькі з квасам састаўляюцца ў чыстае вядро, якое на моцнай вяроўцы спускаецца ў студню (калодзезь): квас тады дакладна ахалодзіцца.

Нясьпелыя **ападкі** (яблыкі й ігрушкі) з саду гэта таксама добры матар'ял на квас. Сабраныя ападкі перабіраюцца, выбіраюцца толькі штукі здаровыя, ачышчаюцца, разрэзваюцца на чатыры часьці кожны, ссыпаюцца ў чысты бачонак, або ў эмальяванае вядзерца і заліваюцца вадой, пры гэтым вады даецца ў два разы больш як ападкаў. Залітыя гэтак ападкі стаўляюцца ў цёплым месцы на два дні, пасьля жыжку трэба працадзіць праз палатняную цадзілку, засаладзіць, колькі хто любіць, разьліць у бутэлькі і закаркаваць, як пры квасе хлебным. Гэткія напоўненыя бутэлькі праз тры дні хай пастаяць на сонцы (напр. на акне), пасьля на тыдзень іх выносяць у склеп і квас гатоў.

З дзікіх польных **ігрушак** (дзічак) можна прыгатаваць напітак у верасьні аднаго году і датрымаць да рабочага часу ў наступным годзе. Здаровыя, але нерасьпелыя йгрушкі трэба спачатку добра апаласкаць, ссыпаць у бачонак так, каб занялі ў ёй тры чверткі прастору, заліць да паўна вадой, накрыць дэнкам, прыціснуць каменям і вынесьці ў склеп. Па трох месяцах напітак гатовы; цяпер разьліваецца ён у бутэлькі, у каторых можа пралежыць і некалькі месяцаў. Самыя йгрушкі могуць быць добрым прысмакам.

З **чорных парэчак** напітак прыгатаўляецца гэтак: кілёграм сьпелых парэчак заліваецца 10-цю літрамі вады, разварваецца, цэдзіцца праз густую палатняную цадзілку і выціскаецца. У атрыманай цечы распускаецца 60 дэка (паўтара фунта) цукру і 5 грам дрожджаў. Усё

гэта дакладна мяшаецца і зьліваецца ў бутэлькі, у каторыя прад тым было ўложана па 2—3 разынкі. Бутэлькі гэткія трымаюцца адзін дзень у цяпле, а пасьля выносяцца на два дні ў склеп і — гатова.

З **рабарбару** прыгатаўляецца сок, які даецца да вады. Поўкілёграма рабарбару абіраецца з „скуркі," рэжацца на кускі, заліваецца літрам вады, дадаецца паўчвёрткі кілёграма (12 дэка) цукру і варыцца з прыданьнем цытрынавай скуркі. Перавараная цеча цэдзіцца, старанна зьліваецца ў бутэлькі і выносіцца ў сьцюдзёнае месца.

Пры канцы трэба заўважыць, што ня можна ніякіх напіткаў шмат піць за раз, „адным духам:" гэтак смага не праганяецца, а сэрца змушаецца без патрэбы да сільнай працы. Трэба дзеля таго піць па менш, але часьцей.

С. С.

# Сушыма садовіну.

Узімку, калі ня стане сьвежай садовіны, добра смакуе кампот з сушаных яблыкаў, ігрушак ці сьлівак... Хто мае шмат садовіны, той не шкадуе і лепшых сартоў, каб пабольшыць зімовыя запасы ў сваей каморы.

Сушэньне садовіны ведае вёска здаўна, але не заўсёды такое сушэньне ўдаецца. Часта бачым, як на гарадзкіх рынках прадаюць гаспадыні сушаную садовіну, якая зусім ня прыцягвае вачэй пакупцоў. Сушана такая садовіна разам з рабакамі, зярнятамі, блізу на вугаль спаленая і ўся ўкачаная ў попел. Гэткі тавар у гандлі ня можа быць ходкім. Таму, калі хочам мець хораша сушаную садовіну для сябе і на збыт, мусімо пасьвяціць ей больш увагі.

Наўперад садовіну празначаную да сушэньня трэба вымыць чыстаю вадою, пасьля парэзаць, выняць зярняты разам з асяродкам (гняздом), выразаць мясцы надгрызеныя рабакамі і тады толькі сушыць.

Дзе й як гэта рабіць? Можам сушыць садовіну ў печы па хлебе, у трубе (у духоўцы), а таксама у пякарскай печы на асобных шуфлядах (на лісках), а некаторыя дробныя ягады — на сонцы.

У печы сушым або на саломе або на лісках. Выбіраем снапок чыстай саломы, распускаем яго ў чыста вымецянай печы і сыплем на яе прыгатаваную садовіну. Як прасохнуць, ссуваем рукамі салому разам з садовінай і выцягваем з печы. Прасохшую садовіну перамешваем ня рукамі, але чыстай лапаткай. Зазначаем, што печ ня можа быць гарачай, бо тады садовіна пусьціла-б з сябе сок, ня сохла-б, а пяклася-б. Печ мае

быць халоднай, а садовіну трэба сушыць некалькіма наваротамі. Ня можна класьці ў печ адразу шмат садовіны, бо тады яна ня роўна высыхае. Класьці трэба яе заўсёды роўным пластам, падсьцілаючы заўсёды салому.

Што такое ліскі да сушэньня садовіны? Робімо іх гэтак: зьбіваем дзераўляныя рамы так доўгія і шырокія, каб маглі вольна памясьціцца ў нашай печы. Рамы гэтыя абцягваем моцнай органтынай (рэдкая тканіна, якую можна дастаць у кожнай краме з мануфактурай) або лепш яшчэ прыбіць на раме сетку з нержавеючага дроту. Як органтыну, так драцяную сетку прыбіваем да рамы цьвякамі. На ўсіх рагах рамаў набіваем сыспаду нявысокія, 4—5 см. ножкі, мяркуючы так, каб у разе патрэбы можна было ліскі стаўляць ў печы адна на другую.

Замест драцянай сеткі, можам плясьці ўсю ліску з дзераўлянага пруцьця. Ліскі напоўненыя садовінай да сушэньня трэба перакладаць, каб раўнамерна высыхалі.

Гэтак сушаная садовіна ёсьць поўная, нязморшчаная, у меру сухая і чыстая.

Йшчэ адна заўвага — вялікія яблыкі рэжам на чвёрткі, меншыя на палавінкі, вырэзваем гнёзды з зярнятамі. Йгрушкі рэжам на палавінкі, пакідаючы хвосьцікі. Сьліўкі і вішні сушым цэлымі.

Высушаную садовіну перахоўвуем у мяшкох з рэдкага палатна або сеткі, ў сухім, правеўным, незатухлым месцы.

Задаймо сабе крыху труду — а ён выплаціцца нам напэўна.

Інж. О. Д.

# Сушэньне йгрушак і сьлівак.

Да сушэньня найлепшыя сарты йгрушак, што маюць шмат цукру і мяккае мяса. Йгрушкі мусяць быць сьпелыя, але неперасьпелыя. Прад сушэньнем іх трэба тонецька абабраць, а большыя разрэзаць папалам; зярнят выбіраць ня трэба.

Правільнае сушэньне йгрушак складаецца з параньня і ўласьцівага сушэньня. Парацца йгрушкі так доўга, аж пакуль зьмякнуць і даюцца прапіхнуць саломінай, але не развальваюцца. Пасьля гэтага раскладаюцца па аднэй і пачынаюць сушыцца зразу пры высокай тэмпэратуры (аж да 80°Ц). З часам тэмпэратура абніжаецца (пры сушэньні сьлівак — наадварот). Сушачыяся ігрушкі трэба што 10—15 мінут перастаўляць, або пераварачываць. Йгрушкі салодкія да цьвярда сушыць ня трэба. Хто ня мае —а такіх большасьць— адумысловага парніка, хай парыць йгрушкі ў звычайным шырокім гаршку, які аднак мусіць: 1. добра закрывацца і 2. мець дзюркаванае дно, пад каторым — паміж уласьцівым дном і йгрушкамі — знаходзіцца кіпячая вада. Гэткі парнік можа кожны сам сабе зрабіць.

Спосаб сушэньня сьлівак у засадзе згаджаецца з сушэньнем ігрушак. Толькі сьліўкі да сушэньня мусяць быць якнайстараньней высьпеляныя і цэлыя. Самае сушэньне сьлівак ня сьмее быць наглым, а толькі павольным. У Францыі працэс сушэньня некалькі разоў прарываюць, а сушэньне само пачынаюць з вельмі нізкай тэмпэратуры (35° Ц).

Інж. А. К.

# Ня пійце вады пасьля фруктаў.

Што вада па фруктах часта шкодзіць людзкому здароў'ю, — гэта людзі заўважылі даўна. Але і да сягоньня астаецца нявыкрыты сакрэт, чаму гэткая вада шкодзіць. Ведама толькі, што наступаюць пры гэтым болі жывата і рвоты (тошнасьць). Ад сабраных усярэдзіне хворага чалавека газаў наступае ўздуцьцё; выпаражніваньне ўстрымоўваецца.

Як усё гэта вытлумачыць?

Адны думаюць, што жалудак (трыбух) ад перапаўненьня занадта расьцягваецца і дзеля таго перастае працаваць. Другія думаюць, што фрукты, зьмяшаўшыся ў жываце з вадою, пучнеюць (як цеста на дражджах) і заціскаюць выходную кляпу жалудка; астаеца пры гэтым адзін толькі выхад — уверх. Наступае тады прыкрае адрыганьне, якое часта пераходзе ў рвоты.

Урэшце апошнія дагадкі людзей аб прычынах шкоднасьці вады пасьля садовіны (фруктаў) тлумачаць усю справу гэтак: месцам хворасьці ня ёсьць жалудак (трыбух), але тонкая кішка, у сподняй часьці каторай ёсьць надта шмат бактэрыяў. Гэтыя бактэрыі ў соках спажытай садовіны знаходзяць для сябе вельмі добрую страву (цукар). Таму бактэрыі страшна хутка размнажаюцца, выклікаючы пры гэтым сільную фэрмэнтацыю, ад чаго вытвараецца многа газаў. Газы гэтыя расьпіраюць сьценкі тонкай кішкі і яна перастае працаваць... А гэты застой і ёсьць шкодным.

Але — скажа нехта — а як-жа дае сабе раду гэта самая тонкая кішка звычайна, калі чалавек, скажам, ня п'е тэй вады? Бо — так прынамся здаецца, — бак-

тэрыі ў кішцэ ёсьць стала і стала працуюць. — Вотжа ў тым і справа, што звычайным парадкам чыннасьць бактэрыяў устрымліваецца markdown рознымі страўнымі сокамі. Калі-ж чалавек прыйме за шмат вады, тады сокі гэтыя ў вадзе распусьцяцца і іхняя дзейнасьць на бактэрыі аслабляецца. Чыннасьці-ж самых бактэрыяў цяпер нішто ўжо ня стрымлівае і таму наступае сільная фэрмэнтацыя, якую чалавек адчувае як „абдуцьцё."

Знача вада тут тым шкодная, што распускае страўныя сокі; а акрамя таго яна занадта скора спажытую садовіну спаласківае з жалудка ў тонкую кішку і гэтым самым не пазваляе гэтай страве належна „пераварыцца" ў жалудачных соках.

З усяго гэтага рада можа быць толькі адна: **наеўшыся садовіны ніколі ня піць вады**. Важна гэта для кожнага, а асабліва для таго, хто есьць садовіну „на навіну."

Л. М.

# Як адратаваць дрэўца абгрызенае зайцамі?

Каму ня ведамае гора ўласьніка маладых ушчэпаў, якія раптам абгрызуць зайцы, трусы ці нехта там яшчэ іншы?! Кара патрэбна дрэўцу ня толькі як прыкрыўка, але і як спосаб разьвядзеньня па ім аджыўчых сокаў. І калі з нейкай прычыны дрэўца такое раптам астанецца кругом без кары, дык гэта прыблізна тое самае, што рынак адгароджаны ад вольнага давозу: дрэўца без кары жыць ня можа і, калі яго не ратаваць, дык раней ці пазьней, а напэўна загіне.

Але не заўсёды.

Калі кара абгрызена толькі на няшырокім прапрасторы, дык ратунак яшчэ ёсьць. Гэткі выпадак паказаны на далучаным рысунку (бач.75): зьлева—дрэўца абгрызенае, пасярэдзіне —прыгатаванае да ратаваньня і зправа — з наложаным „бандажом". Спосаб накладаньня гэтага „бандажа" відаць з самага рысунку. Парадак працы гэткі:

Найперш абгрызеныя берагі кары на дрэўцы трэба роўна абрэзаць вострым нажом. Тады трэба прыгатаваць чатыры тоненькія жывыя ветачкі, так доўгія, каб маглі абхапіць рану зьверху ўніз і яшчэ каб асталіся вольныя, наўкос зрэзаныя канцы на прыкладку. Таксама трэба мець два кускі ліповага лыка.

Як гэта ўсё прыгатавана, тады зьверху і зьнізу раны робяцца ў кары вострым нажом па чатыры разрэзы ў форме літары „Т" (уверсе гэта літара ставіцца дагары). У гэтыя разрэзы ўстаўляюцца загадзя прыгатава-

ныя галінкі і ўсё абвязваецца лыкам так, як гэта паказана на далучаным рысунку — з правага боку. Творыцца гэтак званы „масток“, па каторым хутка пачнуць плыць жыўныя сокі, дрэўца пачынае расьці нанова і рана паволі зарастае (сьцягваецца).



**Мастковае прышчэпліваньне дрэўца абгрызенага зайцамі.**

Гэткі спосаб ратаваньня абгрызенага дрэўца называецца шчапленьнем „на масток“ і практычнымі садоўнікамі вельмі хваліцца.

В. Р.

---

# Падкармліваньне птушак — садаводавых саюзьнікаў

Не адзін навочна мог праканацца, колькі гіне ад марозу і ад голаду розных карысных для садоўніка птушак, якія вясной і ўлетку бароняць сад і агарод ад такіх злосных шкоднікаў, як ліставая тля (мшыца), розныя гусьвіцы, хрушчы і ім падобныя. Гэткім дробным птушкам, як сікора, дрывасечка (кавалік) і нават наш шэры верабей, чалавек затое мусіць памагчы перазімаваць. Усе гэтыя птушкі, ня маючы схову прад сьцюжаю, гінуць, асабліва калі церпяць дакучлівы голад. А небясьпека голаду для дробных пераважна птушак узімку тым страшнейшая, чым грубейшая сьнегавая пакрыўка спавівае нашу зямлю. Праўда, у большасьці нашага Краю сьнегу бывае ня так ужо шмат, але ўсё-ж досыць на тое, каб прыкрыць дробныя вышэрушаныя зярняткі featрознага пустазельля й збожжа, якімі толькі гэтыя птушачкі ўзімку й могуць карміцца.

Ясная згэтуль небясьпека голаду для гэтых людзкіх прыяцеляў, каторых чалавек, у сваім собскім інтарэсе, павінен цяпер падтрымаць. Вялікіх выдаткаў на гэта ня трэба. Хопіць, калі час ад часу высыпаць нейдзе за ветрам жменю пасьлядзяў ці нават мякіны, крошак хлеба, пакрышаную бульбіну і г. д.

Толькі й тут найлепшае жаданьне чалавека можа быць няраз безкарысным, а нават і небясьпечным для птушкі. Безкарысным будзе яно тады, калі яго засьнежа сьнег, а небясьпечным— калі падсыпаная падкормка будзе даступная для такіх непрыяцеляў малых птушак, як каты.

Каб падкормку не засыпаў сьнег і каб птушкам не газіў кот, трэба канешна не пашкадаваць труду і прыгатаваць на падкормку асобную крытую будку, як гэта паказана на далучаным рысунку. Будку гэту трэба прымацаваць на загадзя ўбітым у зямлю калку.



Будка для падкормкі птушак.

Гэта ёсьць канешная работа пры апекаваньні над птушкамі, якія зімуюць у нас на месцы. Трэба аднак памятаць і аб тых птушках, якія на зімку ад нас адлятаюць у цёплыя краіны і якія з настаньнем цяплейшых дзён вясны пачнуць да нас вяртацца. Іх мусіць гаспадар таксама спатыкаць ветліва, стараючыся, каб як найбольш іх пасялілася ў беспасярэднім суседзтве, у гародах і садох.

На гэта патрэбны гнёзды, аб якіх мова ў наступным артыкуле.

**В. Р.**

# Будуйце птушкам гнёзды.

Ведаем ужо, што за мала вартасны пожыў у зімку, як крошкі, посьлед вясной птушкі адудзячваюцца ў сотні разоў, баронячы пладоў, дрэваў садовых, агародніны і інш. Але праз зімку ў нас астаецца да розных шкодных рабакоў толькі мала такіх птушак; шмат іх прылятае да нас толькі з настаньнем вясны. Іх трэба старанна тады прыняць, каб загнезьдзіліся ў блізкасьці людзкога жыльля.

Зрабіць гэта зусім лёгка. Ня трэба нават найменшага грашавога выдатку. Хваціць крыха добрай волі і пара хвілін часу дзеля завешаньня на дрэвах адпаведна зробленых будачак. Адна такая будачка паказана на побач далучаным рысунку (гл. бач. 79).

У добра зробленых і адпаведна ўстаўленых будачках птушкі загнеждживаюцца вельмі ахвотна. Справа йшчэ лягчэйшая, калі птушак праз зіму падкормлівалі ў садзе, і праз гэта прывыклі яны да данага месца.

Будку для птушак збудаваць можа кожны сам на падставе ўласных помыслаў. Адзін з такіх помыслаў паданы на рысунку. Можна так-жа зрабіць будку з дуплявага кругляка. Трымацца трэба аднак засады, каб будкі ня былі ані завялікія, ані замалыя, мяркуючы паводле таго, для якіх птушак яны празначаны. Лётная дзірка мусіць быць у верхняй частцы, а велічыня яе павінна быць так-жа дапасавана да велічыні птушкі. Дно будачкі лепш рабіць няшчыльнае, каб не затрымлівалася дажджавая вада. Стрэшка павінна быць шчыльная і крыху нахіленая ўперад. Некаторыя птушкі, як мухалоўка, любяць будачкі без пярэдняй сьцяны.

Ставіць будкі трэба на адпаведняй вышыні, бо кожны род птушак мае іншыя вымаганьні. Меншыя птушкі любяць ніжэй, ад 3 да 4 мтр., большыя, напр. шпакі, вышэй, на колькі можа пазволіць дрэва. Для шпакоў на адным дрэве можна ўстаўляць некалькі будак. Меншыя птушкі, апрача вераб'ёў, ня любяць блізка сябе гнязьдзіцца і патрабуюць адлегласьці ад сябе



Будка на гняжджэньне птушак.

найменш 30 мтр. Ставіць будкі трэба дзіркай на ўсход, або паўдзённы ўсход.

Далётная дзірка мусіць мець добры далёт, гэта значыць, каб яе не закрывалі галінкі дрэва. Вельмі важным ёсьць, каб да будкі ня мог дабрацца кот.

**М. К.**

---

# Абгледзьце свой садок вясной!

Калі мінаюць апошнія ўжо дні зімовага сну нашых садовых дрэўцаў, разам з усім добрым і патрэбным прабудзіцца аднак да жыцьця і цэлая тысячная, а нават міліонная армія большых і меншых шкоднікаў нашых садоў. Паміж такіх шкоднікаў, якіх яшчэ час лягчэй зьнішчыць, а якія хутка ўжо пачнуць распаўзацца па ўсім садзе, трэба залічыць *пярсьцёначнага шўакапрада*, паказанага на нашым абразку.



**Пярсьцёначны шаўкапрад.**

3-права – яечкі, пасярэдзіне — сьпелая гусеніца, зьлева—сьпелы матыль пярсьцёначнага шаўкапрада.

Дасьпелы гэты шкоднік ёсьць невялікім матылём, з чырвона-бурымі крыльлямі: пярэднія крыльлі цямнейшыя, заднія — сьвятлейшыя і ня маюць папярэчных палосак, якія ёсьць на крыльлях пярэдніх. Матылёк гэты лётае вечарамі ў канцы чэрвеня і аж да пачатку жніўня і складае свае яечкі радамі, у форме пярсьцёнка, на маладых галінках яблыні, ігрушы і вішні. Яечкі гэты матыль зьляплівае сваім сьлюзам, які дакладна засыхае і моцна трымаецца праз зіму аж да вясны. Вясной з гэтых яечак выходзяць чорненькія, касматыя рабачкі, якія спачатку днём жывуць разам у адным гнязьдзе, а ўночы выходзяць на жыр; аб'ядаюць пры гэтым сочнае лісьцё на дрэвах і гэтым вельмі шкодзяць нашым садом.



**Шчоткі да ачышчаньня кары пладовых дрэваў.**

Дасьпелая гусеніца (рабак) пярсьцёначнага шаўкапрада становіцца сьветла-сіняй, з белай палоскай на сьпіне і цёмна-чырвонымі па бакох; у гэту пару гусеніцы ўжо выходзяць з гнязда і жывуць кожная асобна. У м-цы чэрвені гэтыя паласатыя рабакі завіваюцца ў коканы (гнёзды) і праз два тыдні з іх выходзяць ужо сьпелыя матылі, каторыя далей кладуць яечкі і далей размнажаюцца.

Гэта ёсьць спосаб жыцьця пярсьцёначнага шаўкапрада. З гэтага вынікае і спосаб барацьбы з ім:

1. Увосені, калі ападзе лісьцё, праз цэлую зіму

і вясной, пакуль не распусьціцца лісьцё новае, трэба стала нішчыць добра значныя яечкі пярсьцёначнага шаўкапрада.

2. Няўпынна зьбіраць і нішчыць гнёзды ягоных гусеніцаў і

3. Абпырсківаць садовыя дрэвы атрутай, званай *парыская зелень*. Ёсьць гэта зялёны парашок, які мае ў сабе аршэнік і медзь; таму ня можна яго ўдыхаць, ані браць у рот. Для маладых дрэваў бярэцца гэткі склад: 10 грам парыскай зелені, 20—30 гр. нягашанай вапны і 12 літраў вады. Для дрэваў старшых: 20 гр. парыскай зелені. 40—60 гр. нягашанай вапны і 12 літраў вады.




**Абрэзываньне лішніх сукоў.**

a. Добра абрэзаны сук. b. За глыбака. c. За высака
d. Як абрэзываць?: 1 — глыбака, 3 — высака, 2 — добра

Акрамя яечак і гнёздаў пярсьцёначнага шаўкапрада, ёсьць яшчэ цэлы рад іншых шкоднікаў, якія хаваюцца ў кары дрэва, а якіх цяпер час стуль павыганяць. Цяпер апошні час паабіраць старую кару, у шчэлінах якой хаваюцца шкоднікі, усё дрэва трэба ачысьціць паверсе шчоткамі і пабяліць вапнай.

Урэшце трэба паабразаць сухія і наагул лішнія сукі, якія не дапускаюць у карону сонечных праменьняў. Трэба пры гэтым сьцерагчыся, каб ня рэзаць ані за глыбака, ані за высака. **В. Р.**

# Дадаткі і папраўкі

Нічога не стаіць на месцы. Тым больш не стаіць на месцы веда садоўніцкая. Што няраз было „апошнім крыкам моды" ўчора, калі падаваныя тут артыкулы друкаваліся першы раз, тое ёсьць ужо ўстарэлым сягоньня і патрабуе агаворкі і дапаўненьня.

Акрамя таго ненармальныя сяньняшнія варункі выдавецкай працы беларускай не дазволі ўсьцерагчыся некаторых пропускаў, без папраўкі каторых зьмяняецца сэнс самых артыкулаў.

Усё гэта змушае нас пры канцы зьвярнуць увагу чытача на наступныя больш і с т о т н ы я мясцы, якія просім **паправіць перш**, чым прыступіць да карыстаньня з „Чытанкі":

**1. на бач. 16-тай, радок 2-гі зьнізу:**

| надрукавана: | павінна быць: |
|---|---|
| *пакуль* мыла *не* распусьціцца | *як толькі* мыла распусьціцца |

**2. на бач. 24-тай радок 1-шы зьнізу:**

| | |
|---|---|
| на два-тры сантымэтры *мялчэй,* | на два-тры сантымэтры *глыбей.* |

**3. на бач. 25, прад апошнім абзацам: «У часе кожнага палоньня...» трэба ўставіць наступныя сказы:**

Улетку трэба сьцерагчы маладыя сеўкі і старэйшыя дрэўцы прад нападам травяністай тлі (глядзі бач. 16, радок 26 і наступныя). — Калі не вясьці барацьбы з зялёнай тлёй, дык яна размножыцца масава, на дрэў-

цах пакруціцца лісьцё, верх і ўсе сучкі скрывеюць, дрэўца перастане расьці, кара прысохне к пню, само дрэўца застанецца не заачкованым і ўласьнік пітомніку панясе вялікую страту.

**4. на бач. 37, радкі 11—12:**

| надрукавана: | павінна быць: |
|---|---|
| пабелку дрэў найлепей рабіць раньняй вясной. | пабелку дрэў найлепей рабіць *у кастрычніку* ці раньняй вясной. |

**5. на бач. 51, прад абзацам: «Як мусяць выглядаць дрэўцы...» уставіць абзац новы:**

Апрача вышэй пералічаных галоўных даўных сартоў яблыні, па кароткім выпрабаваньню ў нас аказаліся добрымі малазнаныя дагэтуль сарты, як: „Welthy“ (Уэльсы), Акеро, Філіппа і Гаральсон.

**6. на бач. 51, радок 10-ты зьнізу:**

| надрукавана: | павінна быць: |
|---|---|
| *malus prunifolia* | *malus silvestris* |

Калі хто знойдзе дальшыя недахопы ў зьмесьце гэтых артыкулаў, будзем вельмі ўдзячны за зьвярненьне на іх нашай увагі: выкарыстаем усё пры наступным выданьні кніжкі, калі гэтага будзе трэба.

# Зьмест

